

BULK RATE
US POSTAGE
PAID
ADA, MI
Permit No 47

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

№ 6 (8) Ліпень 1994 July Год выд. 2


# БЕЛАРУСЬ ВЫБРАЛА ПЕРШАГА ПРЭЗЫДЭНТА – АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКУ!..

**Папуліст, які паабяцаў выкараніць карупцыю і прыпыніць эканамічны заняпад, быў выбраны вялікаю большасьцю на пасаду першага прэзыдэнта Беларусі.**

**Аляксандар Лукашэнка атрымаў 80% галасоў у часе паўторнага галасаваньня, да 14% за прэм'ер міністра Вячэслава Кебіча, як паведамляе Цэнтральная выбарчая камісія.**

**Прыблізна 70%, з 7,4 мільёнаў праўных выбаршчыкаў, прыняло ўдзел у паўторным галасаваньні, якое адбылося ў нядзелю, 10 ліпеня.**

**Падчас выбарчае кампаніі, А. Лукашэнка паабяцаў абляжыць большымі падаткамі багатых, станоўча кантраляваць эканоміку і зьнішчыць мафію...**

**Беларусь, з 10,3 мільёнаў насельніцтва, прадаўжала трымацца кансэрватыўнага накірунку ад часу распаду былога Саюзу, і амаль не праводзіла ніякіх эканамічных рэформаў.**

**В. Кебіч гатовы доўга не чакаючы падаць у адстаўку, пасьля такога вялікага пройгрышу на выбарах. "Я ня бачу магчымасьці прадаўжаць маю працу ў якасьці прэм'ер-міністра і падаю маю рэзыгнацыю"– нешта ў гэтым сэнсе сказаў В. Кебіч у ягонай заяве. "Я рэспэктую выбар беларускага народу і хачу спадзявацца, што спакой, згода і ўстойлівасьць не зьнікнуць з нашага краю", сказаў В. Кебіч. В. Кебіч, 58, займаў пасаду прэм'ера ад 1990 г.**

**У Беларусі людзі кажуць ужо даўно, што ўся цяперашняя сыстэма прастарэлая і нікудышняя...**



Новы прэзыдэнт Беларусі павінен прыняць прысягу перад парламентам у працягу 2-ох месяцаў. Але не выключаецца, што гэта можа адбыцца ў вельмі хуткім часе...

Аляксандар Лукашэнка, старшыня парлямэнцкае камісіі па справах антыкарупцыі, быў старшынёю саўгаса, гэта перад абраньнем яго ў Вярхоўную раду Беларусі ў 1990 г.

Ён быў адзіным дэпутатам, які прагаласаваў супраць пастановы ў Белавежы разваліць Савецкі Саюз...

Як прынята гаварыць: які народ, такое і начальства!..

*( Па тэлефону з Бэрліну)*

## АД РЭДАКЦЫІ

**Дзеля вакацыйнага сэзону: чэрвеньскі № нашае газэты ня выйшаў... Перапрашаем за няўвязку...**

**Калі ласка, прысылайце адрасы людзей, якія ўмеюць чытаць беларускамоўную прэсу...**

**Памагчымасьці дапамагайце нам стаць на ногі і далей разбудоўваць «Беларускі Дайджэст»...**

**Усім АХВЯРАДАЎЦАМ выдавецтва шчыра дзякуе!**

## *СЬВЯТЛО ПРАЎДЫ І СПРАВЯДЛІВАСЬЦІ*

### *ДА СЯМІДЗЕСЯЦІГОДЗЬДЗЯ ВАСІЛЯ БЫКАВА*

Апошнія тры дзесяцігодзьдзі беларускай літаратуры прасякнуты моцным сілавым полем узьдзеяньня на чытачоў твораў Васіля Быкава, аднаго з найлепшых яе сучасных прадстаўнікоў. Майстар найбольш чытаемага жанру — аповесьцей і апавяданьняў, ён даў нам у выразных мастацкіх формах узоры шчырай, непрыхаванай, сапраўднай праўды. Зьвярнуўшыся ў сваіх творах пераважна да адлюстраваньня і аналізу паводзін чалавека ў час апошняй сусьветнай вайны, удзельнікам якой ён быў, Васіль Быкаў, працягваючы лепшыя традыцыі сусьветнай мастацкай літаратуры, глыбока выкрывае ўсю нечалавечнасьць вайны, ненатуральнасьць гэтага стану і занятку для сутнасьці, прыроды існаваньня людзей, антычалавечнасьць, узмоцненую ўсімі хібамі тых варожых народу дзяржаўных і палітычных сыстэм, якія гэтую вайну распачалі. Аднойчы прыйшоўшы з прачытаных кніг, назаўсёды засталіся ў нашай сьвядомасьці настаўнік Мароз ("Абеліск"), лейтэнант Іваноўскі ("Дажыць да сьвітаньня"), Сотнікаў з аднайменнай аповесьці і шэраг іншых створаных пісьменьнікам пэрсанажаў радавых салдат, лейтэнантаў, — тых, хто на сваіх плячах вынес увесь цяжар вайны і застаўся навекі ляжаць на яе палёх, так і не прынёсшы радзіме даўгачаканага шчасьця. Назаўжды ўвойдуць у гісторыю сусьветнай літаратуры Зьмітрок і Сьцепаніда, звычайныя беларускія сяляне, героі рамана Васіля Быкава "Знак бяды", — вобразы, што нясуць адвечны трагізм жыцьця беларускага народу, сымбаль яго пакутніцкай самаахвярнасьці, за якую ён, можа, будзе мець калі-небудзь, нарэшце, ласку Боскую; вобразы, — не пабаюся такога параўнаньня, — магутнага шэксьпіраўскага гучаньня.

На перадавой лініі фронту пачаў тады, болей за паўвеку назад, сваю вайну Васіль Быкаў, неаднойчы быў пад кулямі і ў агні, спадарыня Сьмерць увесь час хадзіла побач... У адным з украінскіх узлескаў ёсьць нават і магіла, над якой пазначана, што там ляжыць Васіль Быкаў... На перадавой барацьбы з усімі ворагамі чалавечнасьці ён быў і ёсьць увесь час пасьля тае праклятае вайны. Акрамя плённай пісьменніцкай дзейнасьці, Васіль Быкаў актыўна выступае з палымянымі публіцыстычнымі артыкуламі ў абарону дабрыні і справядлівасьці, супраць розных праяў жорсткасьці і бяздушнасьці накінутай народу таталітарнай сыстэмы. Яго голас у самыя змрочныя часіны застою мужна гучаў насуперак ідэалягічным кіраўніком рэспублікі, насуперак усім савеліям паўлавым ды іванам антановічам у абарону сумленных пісьменьнікаў і дзеячоў мастацтва, якія пасапраўднаму несьлі славу роднай Беларусі, хоць іх усяляк хацелі прынізіць, а тое і зьнішчыць. Васіль Быкаў адным з першых заступаўся за Ларысу Геніюш, Алеся Гаруна, Аляксея Карпюка, Алеся Адамовіча, Уладзімера Караткевіча, Сьвятлану Алексіевіч, за рускага пісьменьніка Віктара Някрасава. Фактычна дзякуючы нястомным намаганьням Васіля Быкава дазволілі ў Беларусі ўшаноўваць памяць выдатнага сына яе зямлі мастака Марка Шагала і ў Віцебску быў адкрыты Дом-музэй Шагала і помнік яму.

Без таго, што напісаў, стварыў, зьдзейсьніў, арганізаваў, зрабіў Васіль Быкаў, сёньня нельга ўявіць адну з асноўных вызначальных прыкмет беларускай



ВАСІЛЬ ***БЫКАЎ***

нацыі — яе духоўнасьць. Перакладзеныя на дзесяткі моваў на ўсіх кантынэнтах плянэты, кнігі гэтага пісьменьніка нясуць сьвету зьвесткі і праўду пра Беларусь, яскрава паказваючы нацыянальныя адметнасьці беларускай ментальнасьці. А пераканаўчае псіхалягічна мастацкае раскрыцьце ўнутранага драматызму ў душы кожнага быкаўскага пэрсанажу, вельмі часта падчас сытуацыі, калі неабходна зрабіць рашучы маральны выбар, робіць гэтыя пэрсанажы і ўсю творчасьць пісьменьніка арганічнай часткаю, старонкаю ўсясьветнага літаратурнага працэсу, ставіць гэтыя творы ў шэраг найвыдатнейшых дасягненьняў культуры чалавецтва. Так ажыцьцяўляецца адзін з самых важных для беларускіх творцаў запавет Максіма Багдановіча: "Ня толькі свайму народу... але і ўсясьветнай культуры нясе беларуская літаратура свой дар".

Васіль Быкаў стаў рашуча падтрымліваць грамадзка-палітычную арганізацыю новага тыпу — Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне" з першых-жа дзён яго ўтварэньня. Пісьменьнік лічыць, што яго праграма найбольш блізкая спрадвечным спадзяваньням беларусаў "людзьмі звацца", мець сваю дзяржаўнасьць, разьвіваць безперашкодна сваю адну з самых прыгожых у сьвеце моваў і сваю культуру, не забываць багатую гісторыю Беларусі і яе ўрокі, жыць у згодзе з суседзямі і забясьпечыць, нарэшце, існаваньне бяз войнаў і без генацыду, які неаднаразова паўтараўся на беларускай зямлі. "Гісторыя дала нам апошні шанц нацыянальнага адраджэньня, — падкрэсьліваў неаднаразова Васіль Быкаў і папярэджваў: — Ці мы яго нарэшце ажыцьцявім, ці нацыя разьвітаецца з тою ідэяй навек, каб самой бяз сьледу зьнікнуць з твару зямлі".

Небясьпека такой перспэктывы, на жаль, яшчэ існуе. Таму пісьменьнік так самаахвядана заклікае нацыянальную інтэлігенцыю да яднаньня, а ўсіх творцаў — да актыўнай працы на карысьць Бацькаўшчыне. Мастацтва, літаратура, культура, па думцы Васіля Быкава, павінны несьці сьвятло праўды, сьвятло адвечнага гуманістычнага ідэалу, заклікаючы людзей жыць у міры і згодзе, жыць сумленна і справядлівасьці. Бо час ужо рашуча разбурыць эстэтыку і псыхалёгію нянавісьці, якімі раней было прасякнута наша жыцьцё. Сорам, — падкрэсьлівае Васіль Быкаў, — куды больш вартае пачуцьцё, чым нянавісьць, і з гэтай думкай пісьменьніка нельга не пагадзіцца.

І таму хочацца шчыра пажадаць Васілю Быкаву ў дзень яго сямідзесяцігодзьдзя добрага здароўя і далейшага высокага і яркага творчага гарэньня, так патрэбнага ўсім беларусам, бо ягоная, быкаўская творчая сталасьць сёньня — вызначальная прыкмета духоўнай сутнасьці нашай шматпакутнай нацыі.

Ванкарэм Нікіфаровіч,
Чыкага, ЗША

BELARUSIAN DIGEST
Беларускі Дайджэст
1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546
USA.
Phone: (616) 942-0108

Publisher & Editor -- Nikolas Prusky
Выдавец і рэдактар -- М. Прускі

Артыкулы і дапісы могуць выяўляць пагляды, зь якімі рэдакцыя не згаджаецца.

# Finally Free, Belarus Finds That Statehood Is a Lonely Business

## Top Presidential Candidates See Much to Be Gained In Renewed Ties to Russia

## National Anthem Is a Dud

By CLAUDIA ROSETT
*Staff Reporter of* THE WALL STREET JOURNAL

MINSK, Belarus — The prime minister of Belarus is trying to remember the words of his country's new national anthem. "The text has been written," muses Vyacheslav Kebich, and he appeals to several Belarusian officials gathered around him in an unlit hall of the national Culture and Information Center. "Does anyone know how it goes?"

They shrug. He gives up.

That's the spirit in which post-Communist statehood is unfolding — or, perhaps, unraveling—in this former Soviet republic of 10 million set between Poland and Russia. Poor and unsure of its new footing since the Soviet Union broke up three years ago, Belarus has responded to independence chiefly by sliding into what may be the world's worst national identity crisis.

Gone is the verve of 1991, when Belarus played host to the death blow to the Soviet Union. Leaders of Russia, Ukraine and Belarus met here to yank the final supports from the crumbling empire by forming the Commonwealth of Independent States. Minsk, the capital of Belarus, also became the capital of the new CIS.

### Turning Back to Russia

Free at last, Belarusians replaced the Soviet red flag with their traditional red-and-white banner, struck Lenin's name from a boulevard and a central square in Minsk, embarked upon a contest to choose a new national anthem — and then sort of ran out of steam.

Today, Belarus is on its way to making history as the former Soviet republic most willing to shrug off sovereignty and re-submit to Russian rule. It is a trajectory pleasing to nationalists in neighboring Russia, who have been watching the former Soviet dominions they now call the "near abroad" with rising interest in re-assembling an empire. While such other former Soviet republics as Ukraine and Georgia are racked by conflicting nationalist and pro-Russian passions, Belarus looks set to swoon back into Russia's arms.

In Belarus's first presidential election, to be held June 23, three of the five top candidates are campaigning chiefly for their nation to form a closer alliance with Russia. "All our markets are in Russia. Eighty percent of our products are sold to Russia," says one candidate, Alexander Lukashenko. He adds, "We could not possibly separate ourselves from Russia. We are born to be together."

### Rubles for Sovereignty

The front-runner is the prime minister, Mr. Kebich, who is pro-Russian. Like most current Belarus officials, Mr. Kebich was installed during Soviet times with Kremlin approval. Since last year, he has been pushing to close a deal in which Belarus would basically sell its economic sovereignty to Russia. Mr. Kebich's hope is to secure supplies of Russian rubles and subsidized Russian oil. In exchange, Russia has been demanding control over Belarus's state budget and central bank.

The two countries have signed three economic agreements over the past 10 months, jockeying for terms that would finally clinch Mr. Kebich's rubles-for-sovereignty deal. The chairman of Belarus's central bank, Stanislav Bogdankevich, initially signed on to the scheme, but has recently denounced it — realizing that it would eliminate his job.

"If credit and budget will be determined in Moscow without our representation, there will be a foreign country determining our policy," says the owl-like Mr. Bogdankevich, who keeps a small Belarus flag on his desk. "History has given us a chance to try ourselves as an independent state. We did not want it, but why not use it?"

For many Belarusians, however, the touchy aspect of Mr. Kebich's proposed ruble deal is less the principle of sovereignty than its price. There is no budding Belarusian economy to defend. Instead, the Minsk government has been bargaining over two items: the rate at which Belarus would get to swap its feeble currency for stronger Russian rubles; and the maximum amount of cheap oil for which Belarus could milk Russia.

Bogged down by a national character that many Belarusians describe as pensive and cautious and by a government packed with former apparatchiks, economic reform here has barely budged. Privatization remains on the launch pad. One




quarter of the population consists of pensioners, many given early retirement by a system too brittle to provide new jobs. Still lacking a legitimate private sector, Belarus leaves its workers little choice but to remain on the rusting treadmill of the centrally planned economy designed by the Soviets to rely on Russia. In a losing effort to fund this antique economy, the Belarus government has been churning out cash and credit at a rate engendering inflation of 40% per month. That makes Russia's recent 8% monthly inflation look mighty attractive.

What keeps Belarus going is mainly the growing underground economy. Recently the Belarus government has been trying to eliminate even that, by mandating stiff prison terms for speculators.

The bottom line is an economic system so persistently warped that many Belarusians by now see reunion with richer Russia as the only salvation. Wielding a scythe on a farm plot in western Belarus, wizened, 59-year-old Konstantin Pytlak laments his falling post-Soviet living standards and sums up: "This way it cannot go on. We will have to reunite."

Signs of wilting nationalism abound. On a TV talk show, the host asks questions in the Belarusian language. Local guests answer in Russian. Asked what makes Belarus distinct from Russia, a local photographer, Yuri Ivanov, thinks for a while, then comes up with "Chernobyl"; the reactor accident in 1986 dropped 70% of its fallout on southeastern Belarus. Driving at midnight through the desolate streets of downtown Minsk, a young businessman describes Belarus statehood as an embarrassment when he travels to places like Germany: "If I say I'm from Belarus, nobody knows about it. If I say I'm from the Soviet Union, people know."

### Bear Tracks

Overlooking the capital's renamed Independence Square, a huge statue of Lenin still stands. In Brest, by the Polish border, city council deputy Nicolai Demiantchik notes there has been little pressure to erase the Soviet Union's tracks: "We still have Lenin Street, Soviet Street, Communist Street, Karl Marx Street, Komosomol Street, Engels Street and Soviet Constitution Street."

Even the two presidential candidates who favor independence wonder if Belarus can sustain the project. One, former parliament speaker Stanislav Shushkevich, was host of the 1991 founding meeting of the CIS that freed Belarus. This January—12 days after hosting a visit by President Clinton — Mr. Shushkevich was forced by pro-Russian opponents to resign.

Interviewed in his Minsk apartment, the sturdy, blue-eyed Mr. Shushkevich illustrates Belarus's long legacy of statehood by plunking on the table a bound facsimile edition of the country's first written constitution, promulgated in 1588. Sadly, he says, Belarus's more recent situation has reduced the idea of independence to a joke.

The other pro-independence candidate, Zenon Poznyak, wants Belarus to return to Europe. But he, too, fears that statehood again is giving way to domination by Russia — which he denounces as an "oriental regime based on tyranny" and blames for having inflicted communism on Belarus. Mr. Poznyak, solemn and gaunt, also looks to history for a nationalist spark. "Belarus has existed for more than 1,000 years as a state," he says. "It was a huge Slavic state that extended from the Baltic to the Black Sea."

### Unhelpful History

But this Slavic state peaked about five centuries ago. Since then, history hasn't been helpful in nurturing Belarus nationalism. The labels get confusing, for one thing. Though the language spoken in this region was old Belarusian, the name of the ancient Slavic state was the Grand Duchy of Lithuania. The origins of the name Belarus are lost in legend, but subject to current political debate because alternative spellings, such as Byelorussia—meaning White Russia—suggest the country is a subset of another huge Slavic state: Russia.

The borders get even more confusing. The territory on which modern Belarus sits has for centuries served as the wrestling mat of central Europe. Its flat terrain offers an express route between Russia and Western Europe; Belarus has been overrun by Napoleon and Hitler invading Russia and by armies coming from Russia heading the other way. Apart from interludes of war, most of the area has been colonized by Russia as a buffer zone since the late 1700s.

Belarus enjoyed a nine-month flicker of independence in 1918, while Russia shifted gears from czarism to communism. Poland annexed the western half of today's Belarus, and Stalin snatched it back at the beginning of World War II. He then redrew the Soviet Union's internal borders, turning over what Belarusians regard as their traditional capital, Vilnius, to Lithuania.

Most Belarusians are tired of keeping track. Sixty-two year old Ivan Misko, a sculptor born in western Belarus when it was part of Poland, recounts the history wearily over shots of vodka in his Minsk studio: "In 1939, Stalin took over. In 1941, the Germans came. After the Germans, the Soviets came again. Now come the democrats."

In the western border city of Brest, two 19-year-old Belarus soldiers spending their shrinking pittances in a state bread shop say they can't wait for Belarus to relinquish the sovereignty they are sworn to defend. The country's most glorious moment will come, says one, "when Kebich is elected, because he supports reunification with Russia."

Mr. Kebich and his cohorts seem so sure of reunification that they have retired to the back burner such nationalist chores as introducing the new national anthem, the one Mr. Kebich can't remember. Their lack of enthusiasm has been widely shared. The original post-Soviet contest to produce a new anthem flopped. The best of a small, bad batch of entries came from an emigre in New York.

The parliamentary Committee for the Creation of a National Anthem held a second contest this year. To improve the odds of success, the committee picked a patriotic text and asked only that composers set it to music. In his chambers in Minsk, anthem committee chairman Nil Gilevich intones in Belarusian the closing line of the text, which is a patriotic ode written in 1913 by one of Belarus's best-known poets, Yanka Kupala:

"Oh young Belarus, take your place of honor among nations."

Unfortunately, the winning tune is so bland that Mr. Gilevich says he hopes parliament will reject it. That would leave Belarus to make do, as it has since independence, by playing the music of the old Soviet Belarus anthem imposed by Stalin—minus the words.

---



THE SECRETARY-GENERAL

26 April 1994

Dear Mr. Prussky,

During my recent visit to Belarus my attention was drawn to the untiring efforts being undertaken by a small group of individuals from various parts of the world to help alleviate the cruel effects of the Chernobyl nuclear accident eight years ago. The purpose of this letter is to extend to you, as one of these individuals, my sincere thanks and appreciation for your selfless and commendable work in support of all those on whom the Chernobyl tragedy has brought untold suffering. I also wish to pay special tribute to your efforts to bring their plight to the attention of the international community.

The United Nations remains deeply concerned by the toll that the Chernobyl disaster has taken on the populations in the areas affected and is committed to pursuing measures aimed at alleviating the consequences which they continue to face. As a central part of this work, the United Nations strives to bring about the fullest understanding among the international community of the extent of the accident's impact, and to encourage their solidarity with, and active support to, those who have been affected.

The contribution you have made has thus a unique significance in helping, alongside our efforts, to achieve the goals we share. It deserves the highest recognition.

Together we can ensure that the attention of the world remains focused on the need to mitigate the given consequences of the Chernobyl disaster.

Please accept, Mr. Prussky, my gratitude for these noble actions.

Yours sincerely,

Boutros Boutros-Ghali

Mr. Nikolas Prussky
Grand Rapids, Michigan

# Anger Fueled A Landslide In Belarus

By MICHAEL SPECTER
Special to The New York Times

MOSCOW, July 11 — Suggesting a deep unhappiness that has surfaced in other former Soviet republics, voters in Belarus have elected as their first President a man who promised to dismiss everyone connected to the Government "within a day."

Aleksandr Lukashenko, 39, a crusader against corruption who comes to the job with no significant experience in domestic or international politics, rolled to a thunderous victory, receiving more than 80 percent of the vote.

His opponent, Prime Minister Vyacheslav Kebich, received just 14 percent of the vote on Sunday. Voter turnout in this former Soviet republic wedged between Russia and Poland was slightly more than 70 percent of the 7.4 million eligible voters. The results were released today.

"Lukashenko's victory is a victory for mass protest," the former head of the Parliament, Stanislav Shushkevich, told reporters in Minsk. "People are fed up with Government policies and they have chosen the most radical destroyer of those policies."

Mr. Lukashenko, a former Communist party member and state farm manager, rose to fame last year as the head of a parliamentary commission investigating official corruption. He found so much of it — and was so vocal about his findings — that he decided to enter the country's first presidential election, and announced that if elected, he would dismiss virtually the entire government

It turned out to be the only platform he needed, although he also made much of his desire to link Belarus far more closely with Russia in both political and economic matters. The country, one of four former Soviet republics to possess nuclear weapons, has been badly battered economically since it gained independence in 1991, and there have been many indications that if the majority of citizens had the choice, they would reunite with Russia.

Before the vote, Vladimir Shumeiko, Chairman of the upper house

***The victor promised a mass ouster of Belarus Government officials.***

of the Russian Parliament, predicted: "The people will vote for the candidate who has the right attitude towards Russia." Most Moscow politicians appeared to favor Mr. Kebich.

Belarus is in even worse economic shape than Russia, with inflation running close to 500 percent a year, and industry and agriculture declining steadily as fewer enterprises can afford the gas or electricity they need to operate. Reforms, even those long ago attempted in Russia, have barely begun. The average monthly wage is less than $25, and the majority of citizens live below the official poverty line.

Mr. Lukashenko, whose tactic of making vague promises had many comparing him to the brasher Russian ultranationalist Vladimir V. Zhirinovsky, has offered few substantive answers for the vexing problems his nation must confront.

"The current privatization scheme will be stopped within days after I become President," Mr. Lukashenko said during the campaign. "We will just take everything back," he said in another campaign promise, "and get everybody working again."

The campaign started off turbulent and ended even more so. There were televised attacks on Mr. Lukashenko, political assaults, and even, he said, an assassination attempt. State television tried to discredit him by reporting that he used foreign cash to pay for his campaign and by broadcasting an interview with a woman who accused him of stealing a small amount of personal possessions two years ago. Neither accusation stuck.

In fact, the accusations backfired. Mr. Lukashenko portrayed himself as an honest underdog that the Government would do anything to stop. He told voters that most of their leaders were just old Communist hacks in new jobs. And he asked them repeatedly if they thought they could ever live worse than they are living today.

Despite the remarkable mandate, the results are likely to bring more instability to a country already flirting with ruin. The entire political establishment supported Mr. Lukashenko's opponent, Mr. Kebich, who offered his resignation today as Prime Minister, and it is not clear who will help Mr. Lukashenko run this country. Under law, Parliament retains the right to vote on the choice of candidates for Prime Minister and other top ministers.

Mr. Lukashenko will probably be sworn in late next week.

"We made a number of mistakes," Mr. Kebich told the Russian news agency Interfax today. "I think they will be spoken about both impartially and not. Time will show whether we were right or wrong."



The New York Times

The Minsk Government remains largely packed with apparatchiks.

# ЛУКА-ШОК

***РАНІЦАЙ 24 ЧЭРВЕНЯ СТАЛІ ВЯДОМЫЯ ПАПЯРЭДНІЯ ВЫНІКІ ПРЭЗІДЭНЦКІХ ВЫБАРАЎ. МНОГІХ ВЫБАРШЧЫКАЎ, НАЗІРАЛЬНІКАЎ ДЫ І САМІХ ПРЭТЭНДЭНТАЎ ЯНЫ ПАВЕРГЛІ Ў ШОК – КАГО АД РАДАСЬЦІ, А КАГО АД СМУТКУ.***

**Галасаваньне было даволі актыўным. У ім прынялі ўдзел 5,87 мільёна выбаршчыкаў з 7,35 мільёна, што складае 78,7 працэнта. Крыху меншую актыўнасьць праявілі жыхары Менску – галасавала 69,3 працэнты. Паводле перададзеных па тэлефоне папярэдніх зьвестак, галасы выбаршчыкаў разьмяркаваліся наступным чынам:**

| | |
|---|---|
| Лукашэнка | 45,1 % |
| Кебіч | 17,4 % |
| Пазьняк | 12,9 % |
| Шушкевіч | 9,9 % |
| Дубко | 6,0 % |
| Новікаў | 4,6 % |

Афіцыйныя вынікі галасаваньня стануць вядомыя праз некалькі дзён. Яны могуць крыху адрозьнівацца ад папярэдніх лічбаў. Але ўжо відавочна, што Лукашэнка і Кебіч прымуць удзел у другім туры выбараў.

Відаць, для многіх стаў нечаканым трыумф Лукашэнкі: ён набраў у два з паловай разы больш галасоў, чым яго асноўны канкурэнт прэм'ер В. Кебіч. У пэўных выбарчых камісіях адчувалася рэакцыя, блізкая да шоку. Менавіта з-за гэтага адбылася затрымка з папярэднім падвядзеньнем вынікаў: замест другой гадзіны ночы яны сталі вядомыя толькі а восьмай гадзіне раніцы. На падставе нейкіх несур'ёзных адгаворак затрымлівалі даныя некаторыя раённыя выбарчыя камісіі і Гродзенская абласная. Прасачылася нават інфармацыя аб тым, што на Гродзеншчыне раённыя камісіі атрымалі загад абласнога кіраўніцтва "не сьпяшацца" з падвядзеньнем вынікаў. А старшыня Гродзенскай абласной камісіі Аляксей Саўчын увогуле пайшоў спаць, у той час калі ўвесь сьвет чакаў вынікаў выбараў на Беларусі. Толькі пад ціскам старшыні Цэнтральнай выбарчай камісіі Аляксандра Абрамовіча, які ўжо зьбіраўся зьвяртацца ў пракуратуру, падначаленыя камісіі пачалі перадаваць зьвесткі аб выніках, якіх яны так напалохаліся.

Вынікі галасаваньня былі асабліва нечаканымі для тых палітыкаў, якія слухалі толькі тое, што ім было прыемна пачуць: якія бралі пад увагу дасьледаваньні заангажаваных сацыялагічных груп, што "ўмела" выдавалі жаданае за сапраўднае.

Але нават па выніках сур'ёзных сацыялагічных дасьледаваньняў рэйтынг Лукашэнкі за тыдзень да выбараў складаў недзе 33-36%, а Кебіча – 22-24 працэнты. Відаць, менавіта апошнія дні перадвыбарчай гонкі павялічылі разрыў. Не выключана, што не апошнюю ролю ў гэтым адыграла гісторыя з замахам (ня ведаю, ці трэба ставіць гэтае слова ў двукосьсе) на Лукашэнку. Прынамсі, у Лёзьненскім раёне, дзе адбыўся замах, за Лукашэнку прагаласавалі 82 працэнты выбаршчыкаў. Дарэчы, у Іванаўскім раёне, дзе калісьці быў абраны дэпутатам Кебіч, зараз 63 працэнты галасоў былі пададзены за Лукашэнку.

Увогуле, найбольш "змагара з карупцыяй" падтрымалі на роднай Магілёўшчыне- 69 працэнты, і найменш у Менску – 27,9 працэнта і Гродзенскай вобласьці – 35,9%. У астатніх рэгіёнах за Лукашэнку было пададзена ў сярэднім каля 45-50 працэнтаў галасоў.

Кебіч па ўсіх рэгіёнах атрымаў ад 14 да 22 працэнтаў галасоў і заняў другі радок у Гомельскай, Магілёўскай, Віцебскай і Брэсцкай абласьцях, трэйці – у Гродзенскай і Менскай абласьцях і чацьвёрты – у сталіцы.

Пазьняк амаль ва ўсіх рэгіёнах апярэдзіў Шушкевіча. Толькі ў Менску экс-спікер набраў 22,3 працэнты, а лідэр апазіцыі – 22,1 працэнта. У Гродзенскай і Менскай абласьцях Пазьняк падняўся на другую пазыцыю – 20,6 і 15,4 працэнты адпаведна.

Такім чынам, посьпеху на выбарах дабіўся непрадказальны кандыдат, які ня мае канструктыўнай праграмы. Аналізуючы нечаканы посьпех Лукашэнкі, можна сказаць, што як і на апошніх парламенцкіх выбарах у Расеі, людзі галасавалі не за Лукашэнку ці Жырыноўскага, а супраць існуючай рэчаіснасьці. Забітыя цяжкім жыцьцём людзі зрабілі выбар на карысьць чалавека, які ня быў "пры ўладзе" і таму можа прэтэндаваць на ролю "народнага заступніка", які прапануе простыя рашэньні складаных праблем, які гаворыць на мове "пі́ўной" і ня ведае кампрамісаў. Фактычна вынікі выбараў сьведчаць аб недаверы грамадзян рэспублікі да кіраўніка ўраду, які атрымаў толькі 17,4 працэнтаў галасоў.

Вынікі выбараў прывялі ў шокавы стан каманду Кебіча. Праўда, адзін з яго паплечнікаў выказаў упэўненасьць, што ў другім туры Кебіч пераможа, бо "толькі гэты шок адкрые вочы інтэлігенцыі і апазыцыі і дазволіць стварыць сапраўдны блёк".

Што-ж, паглядзім, чым адкажа апазыцыя і якія вынікі дасьць паўторнае галасаваньне праз два-тры тыдні.

Ігар СІНЯКЕВІЧ
(па тэлефоне з Менску)
Паводле "Звязды".

## БУДЗЕ Ў ВАЕННЫХ СВАЯ СІМВОЛІКА

Днямі адбылося чарговае пасяджэнне камісіі па распрацоўцы сімволікі для Узброеных Сіл і Пагранічных войск рэспублікі пад кіраўніцтвам намесніка міністра абароны па тылу — начальніка тыла Узброеных Сіл Беларусі генерал-лейтэнанта Анатоля Зуева. На ім, як стала вядома карэспандэнту агенцтва РІД, былі разгледжаны прадстаўленыя распрацоўшчыкамі ўзоры Сцяга Узброеных Сіл, Баявога Сцяга часці, розных нагрудных знакаў і залатых медалёў за выдатную вучобу ў ваенных ВНУ. Акрамя таго, былі абмеркаваны ўзоры знакаў «Заслужаны ваенны лётчык», «Заслужаны ваенны штурман» і знакаў класнасці спецыялістаў Сухапутных войск і ВПС па аналагу існаваўшых раней у Савецкай Арміі.

Па зместу прапанаваных узораў членамі камісіі быў зроблены шэраг заўваг, якія рэкамендавана ўнесці да канца чэрвеня.

**Якаў ВІКТАРАЎ, РІД.**

## АРМІЯ ЗМЯНШАЕЦЦА, АЛЕ СТАНОВІЦЦА БЛІЖЭЙ

За апошнія два гады ў беларускіх Узброеных Сілах было звольнена каля 15 тысяч афіцэраў. У асноўным гэта людзі, якія або маюць права на атрыманне пенсіі, або не пажадалі працягваць далейшую службу. Разам з тым у арміі прыкметна ўзрасла колькасць афіцэраў — ураджэнцаў рэспублікі. Калі на пачатку фарміравання беларускіх Узброеных Сіл яны складалі дзесьці 16 працэнтаў ад агульнай колькасці ваеннаслужачых, то сення гэта лічба павялічылася да 47 працэнтаў.

**Алег СІТНІКАЎ, РІД**

"Зьвязда"

## ТАКАЯ СІТУАЦЫЯ СЁННЯ

**Як паведамілі ў Дзяржкамітэце па статыстыцы і аналізу Рэспублікі Беларусь, за тры першыя месяцы бягучага года ў рэспубліцы нарадзіліся 27688 дзяцей. З іх 51,16 працэнта — хлопчыкі і 48,84 працэнта — дзяўчынкі. Гэта на 0,5 працэнта менш колькасці тых, што нарадзіліся ў адпаведным перыядзе мінулага года.**

**За гэтыя ж тры месяцы памерлі 34978 чалавек, і гэта на 2,9 працэнта больш, чым у 1993 годзе. Неабходна адзначыць, што павялічваецца смяротнасць дзяцей да аднаго года. Калі ў студзені-сакавіку 1993 года выпадкаў было 386, то ў гэтым годзе 407, што больш на 5,4 працэнта.**

**Жахліва, што з агульнага ліку смяротных выпадкаў вылучаецца даволі значная колькасць самазабойстваў — 720. За тры першыя месяцы года іх было 720. Гэта на 13 працэнтаў больш, чым у мінулым годзе. Мужчыны развітваюцца з жыццём у 4 разы часцей жанчын, а пераважная колькасць самазабойцаў — людзі, далёкія ад сталага ўзросту. У тэрытарыяльных жа адносінах «сумнае лідэрства» трымаюць два гарады: Віцебск (136) і Мінск (127).**

Статыстыка паказвае, што, пачынаючы з 1993 года, смяротнасць упершыню перавысіла нараджальнасць. І відавочна, што гэта тэндэнцыя мае ўсе падставы для росту, бо эканамічныя, сацыяльныя, экалагічныя і нават санітарныя ўмовы і магчымасці зусім не садзейнічаюць дэмаграфічнаму развіццю ў рэспубліцы. Такая сітуацыя сёння. А што будзе далей, скажам, у 2000-м годзе?

"Добры Вечар" **Падрыхтавала Валянціна ЧЫЖ.**

## АПОШНЯЕ СЛОВА – ЗА МІНФІНАМ

10 чэрвеня завяршыўся візіт у Беларусь экспертаў Сусветнага банка, якія займаліся падрыхтоўкай інвестыцыйных праектаў у галіне сельскай гаспадаркі рэспублікі. Як паведамілі карэспандэнту БелаПАН у Міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчавання, першапачатковым намерам замежных экспертаў было выдзяленне крэдыту на падрыхтоўку і навучанне беларускіх спецыялістаў-аграрнікаў, а таксама на вырашэнне тэхнічных праблем. Аднак прадстаўнікам Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання ўдалося пераканаць іх накіраваць крэдыт на больш канкрэтныя праекты -- падтрымку тых галіновых прадпрыемстваў і гаспадарак, якія ўжо змянілі сваю форму ўласнасці, выйшаўшы з дзяржаўнага сектара. Першапачатковы памер крэдыту па дамоўленасці абодвух бакоў складае 25 мільёнаў долараў ЗША, аднак канчатковы яго памер павінен быць узгоднены з Міністэрствам фінансаў рэспублікі, якое пакуль не сказала заключнага слова наконт гэтага.

"Звязда" **Ірына ЛЕЎШЫНА, БелаПАН.**

## ПІСЬМО-ПРАТЭСТ

# НЕ ЧАПАЙЦЕ НАШАЙ СІМВОЛІКІ!

З пачуццём сораму і агіды пачулі мы сёння ад вядучага перадачы "Радыёфакт" А. Шаўко аб пісьме гэтак званага "народнага" Руху за сацыяльны прагрэс і сацыяльную справядлівасць" у Вярхоўную Раду краіны з патрабаваннем склікання нечарговай сесіі, якая б скасавала нацыянальную сімволіку краіны, бо яна ім, бачыце, не дае спакойна спаць! Камуністы, пенсіянеры-вайскоўцы, рэваншысты ўсіх колераў і адценняў, для якіх незалежнасць і суверэнітэт Беларусі, бы костка ў горле, вышукваюць усё новыя і новыя прычыны, каб парушыць спакой і згоду ў беларускім грамадстве. І апошняе іх "Пісьмо" ў Вярхоўную Раду краіны -- яркае гэтаму сведчанне! Таварышы-змагары матывуюць адмену нацыянальнай сімволікі незалежнай краіны тым, што яе выкарыстоўвалі ў час вайны з Германіяй памагатыя фашыстаў. Але ж чым тут правінілася сімволіка?! Ці не пад чырвонымі сцягамі і чырвона-зялёнымі гэтаксама 1 мая 1986 года ў нашых гарадах і вёсках людзі выходзілі на дэманстрацыі, глытаючы радыяцыю, хаця пасля чарнобыльскай аварыі прайшло аж 4 дні, і тыя, хто сядзеў у сваіх шыкоўных кабінетах пад камуністычнай сімволікай, не паклапаціліся папярэдзіць свой народ аб страшэннай трагедыі, якая напаткала яго?! Чаму ж вы, такія нязломныя змагары за "справядлівасць", не заклікаеце Генеральнага пракурора спадара Шаладонава прыцягнуць да крымінальнай адказнасці за замоўчванне гэтай трагедыі ў яе першы ж дзень, нават час, адказных таварышаў, большасць з якіх сёння крочаць у адных з вамі шарэнгах у так званым НДБСПСС?!

Бо вам гэта не патрэбна, таму што гэта будзе не на вашу карысць, не на вашу перамогу! Злачынствы ў Курапатах гэтаксама рабіліся пад камуністычнай сімволікай: сярпом і молатам і чырвоным сцягам. Няўжо вы думаеце, што беларускі народ аб гэтым ужо паспееў забыцца?! Дык якая ж вам патрэбна сімволіка?!

Сёння, калі мы знаёмы з сапраўднай гісторыяй Беларусі не па кніжках Абэцэдарскага, які пісаў "гісторыю" нашай краіны па заяўцы КПБ--КПСС, а па працах сапраўдных вучоных-гісторыкаў, такіх, як Вацлаў Ластоўскі, Усевалад Ігнатоўскі, Мікола Ермаловіч, Юры Туронак і шэраг іншых, мы ведаем і гісторыю нашае нацыянальнае сімволікі -- гербу "Пагоня" і бел-чырвона-белага сцяга, і ніякім псеўдазмагарам не кінуць болей ценю на гэтыя народныя святыні беларусаў, бо сёння Беларусь -- гэта не толькі краіна вайсковых пенсіянераў, камуністаў-рэваншыстаў, сабораўцаў і іншых антыбеларускі настроеных грамадзян, якіх меншасць сярод агульнай колькасці насельніцтва. Сёння Беларусь -- гэта краіна, якая вяртае з небыцця сваю гісторыю, сваю культуру, ратуе мову карэннага насельніцтва, якая гэтаксама, як і нацыянальная сімволіка, не дае спакойна спаць усё тым жа грамадзянам, аб'яднаным у НДБСПСС! Сённяшняя Беларусь належыць маладым!!! Ім, а не вам, каму ўжо па 70--90 гадоў, жыць у новай краіне, і менавіта яны могуць рабіць высновы, якія нацыянальныя сімвалы патрэбны народу незалежнай і суверэннай краіны!..

Няхай нам даруюць тыя ветэраны вайны і працы, якія з'яўляюцца патрыётамі сваёй краіны, паважаюць яе гістарычную сімволіку: герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг. Наш папрок і словы сораму і агіды гучаць у адрас менавіта "движенцев" з НДБСПСС і тых, хто маўкліва патурае шабашу, які гэтая групоўка ўчарашніх уладароў нашых душ раз-пораз усчынае ў такой спакойнай краіне, якой заўсёды была Беларусь, за што яе і паважаюць у свеце!

...Але ці будуць яе паважаць у вольным свеце, калі ў ліпені з флагштоку ААН у Нью-Ёрку будзе зняты бел-чырвона-белы сцяг, а на яго месцы з'явіцца сцяг чырвоны ці чырвона-зялёны, сцяг камуністычнай дыктатуры?! Удумайцеся, спадары дэпутаты Вярхоўнай Рады Беларусі, перш чым згадзіцца на нечарговую сесію, якая павінна будзе заклеймаць сябе ганьбай, бо калі яна адбудзецца, можна не сумнявацца, што справа таварышоў-змагароў возьме гару -- у сённяшнім парламенце краіны няма процістаяння паўзучаму рэваншызму за аднаўленне ў Беларусі камуністычнага рэжыму, які існаваў да 1991 года. Таму не "лезце ў гісторыю" вось такім чынам, бо народ вам ніколі не даруе гвалту над яго гістарычнай сімволікай, з якой беларусы змагаліся яшчэ ў час Грунвальдскай бітвы з крыжакамі!..

...А вас, грамадзяне, якія напісалі гэтае "пісьмо", патрабуючы змены нацыянальнай сімволікі, мы заклікаем адумацца і забраць яго назад, бо калі сапраўды сімволіку адбяруць дэпутаты-камуністы і спачуваючыя ім, не будзе ў вас і сапраўднага свята перамогі над фашысцкай Германіяй -- патрыёты вам не даруюць здраду нашым нацыянальным сімвалам, можаце ў гэтым не сумнявацца!!! Патрэбна не канфрантацыя, не нагнятанне ў грамадстве напружанасці, да чаго штурхаеце народ краіны вы, якім не прывыкаць да чалавечай крыві, а ўзаемапавага старога і новага, аджываючага і нарадзіўшагася. Рукі прэч ад гербу "Пагоня" і бел-чырвона-белага сцяга!!! Выходзьце святкаваць пад сваімі чырвонымі і чырвона-зялёнымі сцягамі, з партрэтамі Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна, Чыкіна, Новікава, з сярпамі і малаткамі, ніхто вам гэтага не забараняе, але не лезце да нашай сімволікі -- нам яна дарагая не менш, чым ваша вам!!!

Заклікаем усе беларускія патрыятычныя арганізацыі ў краінах блізкага і далёкага замежжа падаць свае галасы пратэсту супраць магчымага здзеку над гербам "Пагоня" і бел-чырвона-белым сцягам. Звяртаемся да беларускага народа: не дайце гэтым старым крыкунам, якія дажываюць свой век і не ведаюць, што твораць, чарговы раз усчыніць гвалт над гісторыяй Беларусі!!!

РУКІ ПРЭЧ АД "ПАГОНІ" І БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛАГА СЦЯГУ!

ЖЫВЕ НЕЗАЛЕЖНАЯ І СУВЕРЭННАЯ БЕЛАРУСЬ!!!

**Члены гурта беларускай культуры "Зорка Венера".**

"Голас Радзімы"

## МОВА МАЯ...

"Добры Вечар"

**На сесіі Віцебскага гарадскога Савета было вырашана «прыняць да ведама думку большасці дэпутатаў гарсавета аб мэтазгоднасці надання рускай мове статуса дзяржаўнай разам з беларускай і звярнуцца ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь з просьбай разгледзець магчымасць правядзення агульнарэспубліканскага рэферэндуму «Аб наданні рускай мове статуса дзяржаўнай нароўні з беларускай». Заклікі дэпутацкай меншасці і запрошаных на сесію гарсавета спецыялістаў не прымаць падобнага рашэння пачуты не былі. «Вольна ці нявольна гэтае рашэнне служыць дэтанатарам сітуацыі ў грамадстве якраз напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў», — сказаў старшыня Віцебскага гарадскога аддзялення Таварыства беларускай мовы Валянцін Арлоў.**

**На сесіі гарсавета было разгледжана пытанне аб правядзенні ў Віцебску падчас прэзідэнцкіх выбараў гарадскога кансультацыйнага апытання «Аб наданні рускай мове статуса дзяржаўнай нароўні з беларускай».**

**Для вынясення гэтага пытання на сесію гарсавета Каардынацыйным камітэтам Народнага руху Беларусі Віцебскай вобласці пры актыўным удзеле віцебскай арганізацыі Славянскага Сабора «Белая Русь» было сабрана 67 подпісаў дэпутатаў гарсавета і 5000 подпісаў грамадзян.**

**Іван ВАЛІН.**

УЛАДЗІМІР ДАМАШЭВІЧ

"ПОЛЫМЯ"

# ПЕРШЫЯ КРОКІ Ў НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ

Жыццё мае адну характэрную асаблівасць: ніхто дакладна не ведае, як яно і калі пачыналася, ніхто не ведае, як і калі яно скончыцца. Таму нам усім, хто жыве сёння, здаецца, што яно не мела пачатку і не будзе мець канца. Ва ўсякім разе, гэта нас мала турбуе. Нас больш турбуе сённяшні дзень, які мы схільны лічыць самым цікавым, самым важным, самым шчаслівым ці нешчаслівым — у залежнасці ад таго, якім бокам гэты сённяшні дзень да нас павярнуўся.

Дарэчы будзе сказаць, што кожнае пакаленне, якое жыло да нас і будзе жыць пасля нас, лічыла і будзе лічыць самым лепшым часам той, у які яно жыве, і ўсё таму, што тое пакаленне было актыўным удзельнікам і творцам таго часу, таго мінулага дня, які сёння ўжо стаў гісторыяй. І толькі мы цяпер можам сказаць, які гэта дзень — ці час, ці эпоха — быў цікавы, змястоўны, насычаны падзеямі, адным словам, гістарычны.

Мы, людзі канца дваццатага стагоддзя, лічым, што наш час таксама цікавы — бурлівы, вірлівы, нават праз меру насычаны падзеямі, якія ўспрымаюцца кожным з нас па-свойму.

Як казалі марксісты, што пачатак гэтага стагоддзя быў пазначаны важнаю падзеяю — Кастрычніцкай рэвалюцыяй, так сёння мы, немарксісты, можам сказаць, што канец стагоддзя пазначаны не менш значнаю падзеяй — канцом камуністычнага рэжыму ў СССР, распадам камуністычнай імперыі і выхадам Расіі і народаў, якія былі пад імперскім уціскам, на новыя палітычныя рубяжы — на рубяжы незалежнасці і роўнасці ўсіх былых прыгнечаных народаў.

Распад вялікай імперыі, якой быў Савецкі Саюз,— падзея глабальная, раўназначная мо землятрусу ці патопу. Аднак жа, дзякуючы шчаслівай выпадковасці, а мо хутчэй абачлівасці Міхаіла Гарбачова і Барыса Ельцына, імперыя распалася без вялікай крыві, без грамадзянскай вайны. Сёння мы яшчэ не ацанілі як след гэтага факта, аднак ён заслугоўвае вялікай увагі. Бо варта зірнуць на падзеі ў сённяшняй Югаславіі, каб пераканацца, што такое імперыя — хоць і ў паменшаным варыянце — і як цяжка яна распадаецца, колькі бярэ ахвяр. Сербы палічылі, што яны сілаю могуць утрымаць усе рэспублікі ў сваіх руках,— і пралічыліся, бо ніхто з меншых па колькасці насельніцтва народаў былой Югаславіі не захацеў быць у ранейшым пад'ярэмным саюзе...

Мы, беларусы, атрымалі сваю незалежнасць надзіва проста, нават нечакана. Паскорыў падзеі жнівеньскі путч, прыпыненне дзейнасці КПСС. Аднак жа былі ў нас людзі, якія ўзялі на сябе смеласць сказаць сабе і ўсім: «Досыць быць парабкам, досыць называцца малодшым братам! Будзем гаспадарамі на сваёй зямлі!» Беларусь стала незалежнаю дзяржавай. Здавалася б, трэба толькі радавацца і рабіць усё, каб мацаваць гэтую незалежнасць.

Ды не ўсе радаваліся — нават самі беларусы. Шмат хто — былыя партапаратчыкі, міністры, дырэктары прадпрыемстваў, старшыні калгасаў — убачылі ў самастойнасці і незалежнасці Беларусі нешта такое, што насцярожвала і нават палохала, бо прадракала перамены ў жыцці, нават у асабістым лёсе. А што, як не ўтрымаюся ў крэсле, як прыйдзе нейкі дэмакрат і скажа: «Досыць кіраваць, таварыш дырэктар, дайце мне пасядзець у вашым крэсле, мо ў мяне не горш атрымаецца. А то вы толькі ведалі план, а пра чалавека зусім забываліся».

Так, шмат каму давялося перасесці ў менш утульныя крэслы, давялося пакінуць прасторныя абжытыя кабінеты, але... не так усё было страшна, як здавалася спачатку.

Разгледзеўшыся, яны паспелі сарыентавацца і захаваць за сабою тыя пазіцыі, якія спачатку амаль без бою былі аддадзены дэмакратам. Давялося толькі памяняць шыльды, лозунгі і тэрміналогію, але душа засталася ўсё тая ж — бальшавіцкая.

Якая можа быць незалежнасць у беларусаў? Ды яны не ведаюць, што гэта такое, ніколі не мелі сваёй дзяржаўнасці. Каб не рускі старэйшы брат у 17-м годзе...

Старая песня загучала на новы лад...

Так, свае гісторыі мы не ведалі, бо нам не давалі яе ведаць, мы верылі таму, што нам гаварылі з Масквы. Не ведалі нават элементарных рэчаў: што ў XIII—XVI стагоддзях былі адною з вялікіх еўрапейскіх дзяржаваў (пры князі Вітаўце мелі тэрыторыю ў мільён кв. км), і сталіца наша спачатку была ў Навагрудку, а потым у Вільні. Што ў склад нашага Вялікага Княства Літоўскага ўваходзілі беларусы, украінцы і літоўцы (тады яны называліся жмудзіны), і што дзяржаўнаю моваю ў княстве была беларуская.

Войны з Масковіяй і Унія (саюз) з Польшчай на працягу некалькіх стагоддзяў змянілі карту Беларусі і лёс яе народа. Масковія — Расія пракладвала-прасякала сабе дарогу ў Еўропу, яна ішла па беларускай зямлі, і ніякая сіла тады ўжо не магла спыніць гэтага руху.

Сёння можна казаць, што тады беларусы не зрабілі таго і таго, што трэба было дзейнічаць вось так... Сёння можна казаць шмат, бо рабілі тое не мы, а нашы продкі.

А вось каб вырашаць свае задачы, шукаць выйсце з эканамічнага тупіка, у якім мы апынуліся, гаварыць мала. Трэба рабіць!

Шмат хто вінаваціць за развал Саюза, за сённяшнія беды Ельцына, Шушкевіча і Краўчука, забываючыся пры гэтым, што канец імперыі быў і так непазбежны, мо ён адбыўся б трохі пазней, не на нашых вачах, але ад гэтага не было б лягчэй — мо наадварот, маглі б

Рыгор БАРАДУЛІН

# БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА КРЫЧЫЦЬ АЛЕ ЯЕ НЕ ЧУЮЦЬ...

*«ЛіМ»*

Па сваёй невытлумачнасці нашая беларуская нацыя бадай што самая загадкавая ў гэтым свеце. Нашыя мацнейшыя ды большыя колькасна суседзі як з усходу, так і з захаду з аднačасовым жаданнем захаліць спаконныя землі нашыя маюць на першамэце даказаць, што не існуе гэтакай нацыі, як беларуская, гэтакага народу, як беларускі.

Дужа перад панам Богам няйначай правінілася Беларусь. І войны ўсе на яе, й нясносці ўсе на яе, і прадказаны Бібліяй чорны дзень. Вынішчэнне за вынішчэннем, генацыд за генацыдам — ленінска-сталінскі, чарнобыльскі, духоўны... Чым яшчэ, калі не віной перад Госпадам, тлумачыць тое, што кожнаму пакаленню трэба даводзіць, што мы беларусы, што мы народ адметны, што мы нацыя. Нашым суседзям, генетычна блізкім нам, — і літоўцам, і латышам, — дастаткова толькі нарадзіцца — й яны літоўцы, латышы. А нас, беларусаў, расцягваюць, раздзіраюць то на праваслаўных, то на католікаў, падкладваючы пад гэтае паняцце, што мы то расейцы, то палякі. І уніяцкая царква, якая б магла стаць нашай нацыянальнай царквой, знішчана. Нават аўтакефаліі на радзіме нашай няма. Усё вядзе ў падпарадкаванне так званага трэцяга Рыма. У поўнай адлаведнасці з былой камуністычнай партыйнай структурай.

Беларусь, як бутэрброд, — на свой чэрствы хлеб намазваюць дужэйшыя суседзі, стараючыся намазаць як мага тлусцей і асалоду расцягнуць.

Калі лірычна ўявіць, як хацелася б бачыць нас гэтым мацнейшым суседзям, дык гэта, відаць, вераб'ямі, якія сапраўды на птушыных правах падсуседнічаюць на буслянках, дзе гаспадараць толькі буслы. Прыводжу вобраз бусла, бо ён святы ў беларусаў, каб падкрэсліць і павагу да дужэйшых суседзяў, да лепшай часткі іх. Бо ў змрочныя часіны нашыя апальнікі знаходзілі прыпірышча ў лепшых людзей Расіі і Польшчы.

Тады, калі ў чырвонай імперыі, як заўсёды, ударнымі тэмпамі вынішчалася ўсё нацыянальнае, на беларускіх пісьменнікаў легла адказнасць захаваць мову — аснову нацыі і магчымай будучай дзяржавы. Адразу след агаварыцца, што гэта хутчэй ад усяго была дазволеная адказнасць, вымушаны дазвол з боку маналольнай партыі камуністаў. Давалася амплітуда смеласці, якая рэгулявалася жорстка. Літаратура, як і ўся культура, мусіла быць нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па змесце. Напрыклад, на пляшцы з белавежскай горкай беларускі арнамент нясмела нагадваў нацыянальную прыналежнасць інтэрнацыянальнага напою. У дадзеным выпадку змест урэшце вырашаў усё. А вось у бальшыні твораў беларускіх савецкіх пісьменнікаў хіба дазволеныя формы імёнаў Алесь, Міхась, Рыгор, Паўлюк намякалі, што твор made in BSSR.

Па сваёй ідэі пісьменнік перш за ўсё асоба, творца. І само сабой зразумела, што асоба павінна тварыць аднаасобна, быць, так бы мовіць, аднаасобнікам, самому адказваць за сябе, на сябе браць адказнасць за ўсіх. Ды ў краіне перамогшага, ці, можа, дакладней было б сказаць — перамокшага ў крыві, сацыялізму ўсё мусіла быць калектыўнае. Фальклярысты ў цывільным нават прыдумалі ад імя народа фармулёўку: дзіва дзіўнае, калектыўнае. Дык вось гэтае далёка не казачнае дзіва і стварала творчыя калгасы, яны саюзамі называліся (каб паўтарыць яшчэ і яшчэ раз, назву савецкае імперыі)...

Цяпер фармальна няма імперыі, фармальна Беларусь незалежная Дзяржава, фармальна пісьменнік можа быць вольны. Ды вольны ён перш за ўсё ад сродкаў існавання, ад магчымасці друкавацца і выдавацца. Старыя структуры пад новымі шыльдамі тужаць зашмаргу на шыі беларускай мовы.

Па-ранейшаму адчуваецца сумна вядомае: «язык партии — русский язык». Нашая мова адразу не можа скінуць з сябе магільную пліту вагою ў два стагоддзі. Беларуская літаратура крычыць, але яе не чуюць уладатрымцы, бо яны гадаванцы таталітарнага рэжыму, яны так званыя інтэрнацыяналісты. І беларускія пісьменнікі ў сваёй дзяржаве як пасынкі, ці як байструкі. І сапраўды, што ў той паслоўцы: разгуляўся, як сабака ў торбе. Нават выраз «папера ўсё стрывае» зычачкуецца. Не стала паперы, яна стала дарагой, недаступнай беларускай кнізе. Але яе хапае на нізкапробную прадукцыю, на чырвонажоўтую прэсу, якая адмыслова вядома чые грошы, не абмяжоўваючы сябе ў словах пагарды і нянавісці да беларускай сімволікі, да беларускай мовы, да ўсяго беларускага. Арыентацыя такой прэсы антыдзяржаўная, прасавецкая да замшэласці. Не адстае ў агульным наступе чырвона-карычневікаў на беларушчыну, на суверэнітэт дзяржавы радыё і тэлебачанне, абслугоўваючы партыю ўлады і ейнага стаўленіка, чырвоназоркавая мара ў якога прадаць незалежнасць Беларусі так, каб бясплатна ды нястратна.

Прыйшло і прыходзіць у літаратуру новае пакаленне. Але ці стануць асобамі творцы беларускага духу, ці хопіць ім духу выстаяць перад спакусамі рынку, пад пільным позіркам спрадвечнай беларускай нэндзы? На іх надзея. Бо неяк заўважыў Васіль Быкаў: нашая літаратура патрапіла дзесяцігоддзі, каб даказаць, што ўмее пісьменна пісаць, выгладжваць кожнае слова. Ды ведаем мы, што аднаго гэтага ўмельства мала, каб літаратура сцвердзіла сябе, заявіла пра сябе на ўвесь голас ва ўсім свеце. Васіль Быкаў першы сказаў слова праўды, сказаў па-беларуску, сказаў шчыра — й свет пачуў Васіля Быкава, пачуў пра Беларусь.

Народ нараджае асобу, асоба ўзбуйняе нацыю.

# Як бацюшка пабіўся зь япіскапам

*"Свабода"*

Япіскапу Ваўкавыскаму й Гарадзенскаму Валянціну давялося ладаваць валізкі ды ехаць за мяжу — у Стаўраполь, дзе ён узначаліў духоўную сэмінарыю і атрымаў тытул япіскапа Бакінскага.

Паляпшаць стан праваслаўя ў нас уладыку Валянціна прыслалі ў Горадню з Расеі два гады таму, паколькі сам ён родам зь Беларусі. Ён адразу пачаў наводзіць парадкі ў цэрквах.

Аднак нядаўна здарылася неспадзяванка. Паехаў япіскап з праверкай у мястэчка Лунна, што ў Мастоўскім раёне. А тамака ўбачыў ён такія непарадкі: сама матушка (!) прадавала ў царкве сьвечкі ды іншае сьвяточнае начыньне. Карупцыя! Абураны ўладыка пачаў яе сарамаціць і ганіць. Гэта вельмі не спадабалася бацюшку, і той, каб спыніць чытаньне натацыяў, пабіў высокага госьця, які некалькі дзён потым хадзіў зь сінякамі на твары.

Давялося япіскапу зьмяніць прыход, а бацюшку наагул пазбавілі пастырства і выгналі. А пагатоў быў у яго за душою яшчэ адзін стары грэх — матушка была ягонаю другою жонкаю. Абавязкі япіскапа Ваўкавыскага й Гарадзенскага пакуль выконвае сам мітрапаліт Філарэт.

**Міхал ВАЎКАВЫЦКІ**

**Паважаны Чытач! Калі ласка, дай пасільную ахвяру на "Беларускі Дайджэст"...**

---

быць вялікія ахвяры, як гэта мы сёння бачым на прыкладзе былой Югаславіі, дзе ўжо колькі часу льецца кроў, дзе стаўка зроблена на сілу.

Наша імперыя распалася спакойна, але цяжкасці ёсць, яны непазбежныя. Бо, як сказаў адзін чалавек, наш старэйшы брат так моцна і доўга трымаў нас у сваіх абдымках, што яго рукі проста прыраслі да нашага цела, і іх ужо трэба адрываць ледзь не хірургічным спосабам.

Перацерпім гэты боль у імя будучыні. Бо кожны народ хоча волі і незалежнасці, хоча быць гаспадаром у сваім доме, у сваім краі. Ці былі мы дагэтуль гаспадарамі? Не, не былі. Мы прывыклі толькі прыслужваць, толькі выконваць чужыя каманды. Мы сёння нават псіхалагічна не готовы быць гаспадарамі, бо ў нас парабкоўская натура. Дык што пасля гэтага? Давайце так і застанёмся парабкамі навечна? Возьмем самы лёгкі варыянт. Але што нам скажуць пасля нашы дзеці, унукі і праўнукі? Ды яны праклянуць нас, і нам ніколі не будзе спакою на тым свеце, калі мы не здолеем выйсці з сённяшняга крызісу, не зможам выйсці на сваю дарогу развіцця.

Нас палохаюць, што ў нас няма ці зусім мала энергетычных рэсурсаў. Затое ў нас ёсць багатыя чалавечыя рэсурсы, добрыя людскія галовы і рукі, кемлівыя і працавітыя, якія шмат зрабілі і яшчэ больш зробяць, калі будуць рабіць для сябе, для сваіх дзяцей, а не для чужога дзядзькі.

Возьмем тую ж недалёкую нам Фінляндыю, якая таксама не мела энергетычных рэсурсаў, аднак жа, вызваліўшыся з абдымкаў усходняга суседа яшчэ ў 1918 годзе, здолела за гэты час выйсці ў лік перадавых краін свету па ўзроўні дабрабыту народа.

Ці ўзяць тыя ж прыбалтыйскія краіны: Літву, Латвію, Эстонію, якія да 1940 года развіваліся самастойна. Хіба яны жылі бядней за нас? У 40-м годзе беларусы ездзілі туды па вопратку, абутак і іншыя тавары, якіх у БССР не было і блізка.

Да таго ж, не такія мы і бедныя на выкапні. Колькі ў нас калійнай і натрыевай солі, якою мы яшчэ не ўмеем як след карыстацца. Мы прадаем яе за бясцэнак, а потым тыя, хто яе купіў, прадаюць нашу соль далей, але ўжо нашмат даражэй. А хіба мы самі не маглі б так зрабіць? Ды чамусьці ў нас кароткія рукі.

Багатыя нашы нетры на буры вугаль, на жалезную руду, на нафту, на торф, сапрапелі і яшчэ на шмат што іншае, толькі трэба гэта ўсё па-гаспадарску здабыць і разумна скарыстаць, а не чакаць, покуль нам нехта зробіць. Мо не трэба пасылаць сваіх спецыялістаў-нафтавікоў у далёкую Цюмень, а даць ім работу тут, у нас, каб яны даставалі нафту для сябе, са сваіх нетраў.

Мы багатыя таксама на лес, якога не ўмеем па-гаспадарску скарыстоўваць, мы багатыя воднымі рэсурсамі, мы не выкарыстоўваем багатую энергію рэчак і ветру, як выкарыстоўвалі яе нашы дзяды — яшчэ недзе 50—100 гадоў назад.

Так, нам будзе нялёгка, нам трэба будзе варушыць мазгамі, рабіць рукамі, але затое мы перастанем быць рабамі чужое палітыкі, эканомікі, стратэгіі.

Нас палохаюць, што без вайсковага саюзу з Расіяй мы не зможам забяспечыць сваю незалежнасць. А мне здаецца, што наадварот: толькі нейтралітэт можа забяспечыць нам незалежнасць, а ўдзел у любым вайсковым альянсе прывядзе да падпарадкавання чужой волі, чужой сіле.

Асабліва актыўна выступаюць за вайсковы саюз з Расіяй камуністы, якія цяпер аб'ядналіся ў адну партыю камуністаў Беларусі — ПКБ. Змянілася трохі назва партыі, але, мне здаецца, больш істотна нічога не змянілася, хоць старыя лідэры і пайшлі ў адстаўку.

На наступных выбарах камуністы гатовы спаборнічаць з іншымі партыямі і абяцаюць у выпадку перамогі поўную стабілізацыю і высокі дабрабыт нашаму народу.

Але мне здаецца, што толькі наіўны чалавек можа паверыць у іх абяцанні. Бо хто, як не самі камуністы, давялі нашу Беларусь да такога стану, што яна стала апошнім колам у баявой імперскай калясніцы Савецкага Саюза, поўнасцю страціла свой дзяржаўны суверэнітэт, свой нацыянальны воблік, сваю мову і культуру.

Ці камуністы лічаць, што такія рэчы нічога не варты і яны не маюць ніякай цаны? Відаць, што так яно і ёсць. Затое БССР стала зборачным цэхам і нарыхтоўчаю канторою СССР, стала палігонам і вайсковаю базаю стратэгічных і тактычных ракет, ператварыўшыся такім чынам у першую мішэнь для стратэгічных ракет НАТА.

І сёння камуністы заклікаюць нас і далей заставацца гэтаю мішэнню. Вайскова-прамысловы комплекс, які моцна ўкараніўся на нашай зямлі, ніяк не можа развітацца з ілюзіяй, што ён па-ранейшаму будзе квітнець і развівацца, што імперская стратэгія не памерла разам з развалам савецкай імперыі. На гэта якраз і робяць стаўку камуністы Беларусі.

Яшчэ яны выступаюць за другую дзяржаўную мову — рускую. І праўда, ім цяжка перавучвацца, яны ўжо даўно рыхтаваліся зліцца ў адну нацыю і ведалі толькі адну мову — мову камуністычнай будучыні — рускую. А сёння тут яшчэ трэба вывучаць нейкую там... родную, беларускую! Не вывучалі і вывучаць не будзем,— так разважаюць сённяшнія качаны і чыкіны. І вядуць прапаганду за тое, каб змяніць закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы і зрабіць рускую мову другою дзяржаўнай.

Вось тут якраз і ляжыць сакрэт «абнаўлення» беларускіх камуністаў, бо мы добра ведаем, што значыць сёння надаць рускай мове статус дзяржаўнай. Яна і так была дзяржаўнай, яна яшчэ фактычна ёю і застаецца. Але наданне афіцыйнага статуса дзяржаўнасці азначала б узаконіць асіміляцыю, узаконіць выміранне беларускай мовы, адным словам — узаконіць зробленае раней беззаконне, калі без усякага апытання народа, без усякай нават фармальнай прычыны ці патрэбы беларускія школы пераводзіліся на рускую мову, калі ўсе ВНУ сталі рускамоўнымі, калі беларуская мова была выгнана з дзяржаўных устаноў.

Сакратары ЦК, міністры сталі размаўляць па-руску, гледзячы на іх, пачалі цурацца свае мовы вышэйшыя і ніжэйшыя начальнікі. На чалавека, які пратэставаў супроць такога гвалтоўнага абрусення, глядзелі як на нацыяналіста, як на ворага генеральнай лініі партыі. Урэшце, як на ворага народа — і абыходзіліся з ім адпаведным чынам.

І вы сёння, **товарищи** камуністы, хочаце апраўдаць і ўзаконіць сваё рэнегацтва, не хочаце нават пакаяцца перад беларускім народам, што абакралі яго душу, што зрабілі яго без'языкім, бяспамятным, што хацелі адабраць будучыню ў нашых дзяцей, унукаў і праўнукаў, каб яны расталі, як туман, каб растварыліся ў чужым моўным моры і назаўсёды перасталі існаваць як нацыя, як народ?

Прабачце, адзін раз мы вам паверылі. Дык думаеце, што паверым другі раз? Не! Бо ашукаеце зноў. Камунізм — утопія, тое, чаго ніколі не будзе. У вас усё гладка толькі на паперы, а практыка жыцця паказала, які рай на зямлі вы будавалі: рай для выбраных, для сябе, і рабства для ўсіх астатніх.

Хто для вас быў чалавек? Ніхто і нішто. Вы маглі знішчыць любога за нейкую мізэрную «правіннасць» — што ён не згадзіўся з думкаю начальства, што сказаў праўду ў вочы таму ж начальству, што не ўхваліў новае бязглуздае пастановы ЦК.

*Роздум* "Народная Газета"

# "Ёсць у Нясвіжа багатае мінулае, не трэба загадзя аплакваць яго будучае, якое, я ўпэўнены, будзе цудоўным"

Уладзімір ДРАЖЫН,
старшыня выканкама Нясвіжскага раённага Савета народных дэпутатаў, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь

Апошнім часам многія сродкі масавай інфармацыі, грамадскасць рэспублікі звяртаюць свае пільныя позіркі да Нясвіжа, яго мінулага, сучаснага і будучага. І калі першы перыяд яго існавання ўяўляецца многім як нешта казачнае, амаль што святое, то сучаснасць і будучае горада і раёна бачыцца, і гэта яскрава адлюстравана ў шэрагу матэрыялаў, што з'явіліся ў прэсе, як час застаяласці і абыякавых адносін мясцовых улад і жыхароў да вялікай гісторыі горада, назаўсёды страчанай жамчужыны Беларусі.

Гісторыя другой ці трэцяй сталіцы Беларусі — Нясвіжа (тут цяжка разабрацца ў храналогіі і ў гістарычных доказах навукоўцаў), якая ахутана мноствам таямніц, паданняў і сёння, цікавіць кожнага нашага суайчынніка, які хоць трошкі даражыць ёю, кожнага патрыёта сваёй зямлі. Многія з аўтараў артыкулаў маюць некаторую рацыю, але трэба падкрэсліць — толькі некаторую. І вось чаму.

Спадзяюся, што большасць чытачоў "Народнай газеты" ведаюць гісторыю Нясвіжа, гісторыю стварэння тых выдатных архітэктурных помнікаў, якімі ўсе мы сёння па праву ганарымся. І тым не менш хацелася б увогуле нагадаць яе асноўныя этапы.

*XVI стагоддзе... Па праекту* італьянскага дойліда манаха Яна Марыі Бернардоні пачынаецца будаўніцтва палацава-замкавага ансамбля князёў Радзівілаў, касцёла езуітаў (пабудаваны ў 1593 годзе, зараз Фарны касцёл), гарадской ратушы (у 1586 годзе Нясвіжу было нададзена магдэбургскае права).

XVII—XVIIIстагоддзі — працягваецца будаўніцтва палацава-замкавага ансамбля, узводзяцца манастыр бенедыкцінак, калегіум езуітаў, Дом рамесніка, Слуцкая брама.

XIX стагоддзе — дабудоўваецца замак, разбіваюцца паркі вакол яго і горада.

Такім чынам, як бачым, развіццё Нясвіжа ішло паслядоўна на працягу амаль чатырох стагоддзяў. Зразумела, ішло яно ў асноўным дзякуючы намаганням знакаміцейшага ва ўсёй Еўропе княжацкага роду Радзівілаў. Шчыра кажучы, нейкія 5 ці 10 гадоў назад нам больш прыходзілася моўчкі абыходзіць гэтае прозвішча. Але час ідзе, гістарычная праўда займае сваё пачэснае месца. Сёння з упэўненасцю можна сказаць, што гісторыю Нясвіжа нельга адасобіць як ад гісторыі сям'і Радзівілаў, якія знаходзіліся ў сваяцкіх зносінах больш чым з дваццаццю пануючымі дварамі Еўропы, так і ад культурнай і мастацкай дзейнасці ў маёнтках і сядзібах па-за Нясвіжам, такіх, як Белае, Слуцк, Карэлічы, Урэчча альбо Налібокі. Усе яны былі цесна звязаны з нашым горадам, і таму можна з упэўненасцю сказаць: каб Радзівілы не выбралі Нясвіж месцам сваёй рэзідэнцыі, не ўбачылі б мы той прыгажосці, якая і сёння здзіўляе ўсіх, хто тут бывае. У той жа час нельга не заначыць, што ўсё цудоўнае, што ёсць у нашым горадзе, зроблена рукамі, а іншым разам замешана на крыві і поце таленавітых простых беларускіх людзей.

За чатыры стагоддзі існавання Нясвіжскай ардынацыі гісторыя паразнаму распараджалася горадам. Прайшлі праз яго Лівонская і Паўночная войны, Айчынная вайна 1812 года, першая сусветная і Вялікая Айчынная войны. Неаднаразова горадператвараўся ў папялішча. Некаторым помнікам дойлідства пашанцавала больш, некаторым менш, некаторым наогул не пашанцавала. Так, быў знішчаны калегіум езуітаў, не раз за гэты час дабудоўваўся і перабудоўваўся разбураны ворагамі замак, амаль напалову была знішчана гарадская ратушная вежа з яе выдатным і прыгожым дэкаратыўным роспісам. Трэба дадаць, што ўсе гэтыя пабудовы да таго ж не раз з'ўляліся аб'ектамі рабавання іншаземцамі. Менавіта таму значная большасць твораў мастацтва, іншых каштоўнасцей зараз знаходзіцца ў розных сховішчах Расіі, Польшчы, Літвы, Германіі, у шэрагу замежных музеяў, а лёс некаторых з іх наогул невядомы. Яны, мусіць, назаўсёды ўжо згублены для Нясвіжа і Беларусі.

Вось усё тое, што засталося нам у спадчыну ад продкаў.

Час... Ён адыходзіць ад нас няўмольна, пакідаючы пасля сябе падзеі, з якіх складаецца наша гісторыя. І гэтыя падзеі ў пасляваенныя гады былі далёка не радавымі — фашысты разбурылі амаль увесь Нясвіж. І ўсё ж такі, нягледзячы на цяжкасці, горад адраджаўся, адбудоўваўся. І менавіта таму, можа, я паўтаруся, што тут жылі і жывуць працавітыя і руплівыя,з вялікай душой людзі. Прыклад таму — аднаўленне восенню 1944 года нашага Фарнага касцёла. Толькі дзякуючы мужнасці і ахвярнасці настаяцеля храма Рыгора Вікенцьевіча Каласоўскага і шэрагу прыхаджан каталіцкі касцёл з яго непаўторнымі роспісамі быў выратаваны ад немінучай пагібелі.

Але ж гэта, паважаны чытач, таксама хоць не далёкае, але былое. Я як старшыня выканкама раённага Савета народных дэпутатаў неаднаразова задаваўся пытаннем: а што ж мы зрабілі для роднага горада? Няўжо ж мы толькі карысталіся і толькі нашы продкі стварылі? Да гэтага пытання я вяртаюся раз за разам, калі даводзіцца чытаць у друку ці чуць па іншых сродках масавай інфармацыі гэткія словы: "Нясвіж у заняпадзе...", "...архітэктурныя помнікі Нясвіжа просяць тэрміновай дапамогі" і гэтак далей.

Як ні горка, але трэба прызнаць, што такія выказванні маюць пад сабою некаторую выснову. Але давайце будзем аб'ектыўнымі да канца — не ўсё наогул такое застаялае і безвыходнае, як падкрэсліваюць многія з вышэйназваных "прыхільнікаў" культуры. Мы ўсе любім гаварыць аб высокіх матэрыях і асабліва — хлебам не кармі — крытыкаваць. Гэта прасцей за ўсё. Але я не буду абараняцца. Проста давайце паглядзім на тое, што зроблена ў нас за апошнія дзесяцігоддзі — гэтыя гады нельга лічыць выкрасленымі з нашага жыцця, гэта не "белая пляма" ў гісторыі горада.

Пачну з работ па рэканструкцыі і рэстаўрацыі *паркавай зоны палацава-паркавага* ансамбля. Пачынаючы з канца 60-х — пачатку 70-х гадоў мы неаднаразова рабілі пэўныя захады перад урадам рэспублікі з мэтай паляпшэння стану горада. Цяжка, вельмі цяжка гэта было рабіць тым часам. Тады мы больш хваляваліся аб будаўніцтве жылля, надоях, прыбаўленні жывёлы ў вазе і г.д., а пра культуру іншым разам і не ўспаміналі — не хапала сродкаў. Гэта з аднаго боку. З другога ж — не адзін год прыйшлося шукаць спецыялістаў па паркавых насаджэннях, а калі яны і знаходзіліся, то ніхто з іх не адважваўся брацца за работу па рэстаўрацыі гэтай жамчужыны. У рэшце рэшт было знойдзена ўсё неабходнае. І з 1987 года гэты наш план пачаў здзяйсняцца, хоць на яго шляху сустракалася шмат перашкод. Частка грамадскасці горада і раёна выступала супраць выканання вышэйназваных работ, спасылаючыся на ненавуковасць і недакладнасць дакументацыі. Але марудзіць *было* нельга. Штогод на прадвесні вялікая частка парку затаплялася вадой, магутныя дрэвы, якія на першы погляд былі здаровымі, на самай справе даўно хварэлі знутры, валіліся, знішчаючы мноства маладых. Работы пачаліся. У іх прымалі ўдзел меліярацыйныя арганізацыі раёна, вобласці, рэспублікі, улетку штотыднёва арганізоўваліся суботнікі служачых дзяржаўных устаноў, пра-

---

Сёння вы кажаце, што ідэю камунізму скрывілі, сказілі, што пры іншых «правадырах» яна была б ідэальна ўвасоблена ў жыццё. Якіх гэта іншых? Дзе іх узяць? Хіба на якой іншай планеце? Бо што гэта за тэорыя, якую так лёгка можна скрывіць, так відазмяніць, што *яе не пазнаеш, што яна ўжо свой дадатны знак змяніла на адмоўны?* Усе гэта бачаць, але ніхто не асмеліцца сказаць, што тэорыя ўжо не тая, якая была на пачатку, бо таго, хто гэта зробіць, чакае суровая кара — турма, ссылка, расстрэл. Дазваляецца толькі крычаць, што тэорыя ўвасоблена ў жыццё ледзь не ідэальна, што яна самая лепшая ў свеце.

Усё ўпіраецца зноў жа ў адносіны да чалавека, асобы. Калі ён ля карміла ўлады,— ён чалавек, асоба, калі ж ён унізе, у масе,— ён нішто, ён пясчынка, цаглінка, вінцік. Пры такіх адносінах да чалавека ніколі нельга пабудаваць дэмакратычнага грамадства. Яно заўсёды будзе дыктатарскім, тыранскім, якім яно і было ў СССР, ды і ў краінах так званага сацыялістычнага лагера.

Дарэчы, вы гэта, **товарищи** камуністы, добра ведаеце, бо адчулі не раз на сваёй уласнай скуры — гэтую дзікую разбежку паміж тэорыяй і практыкай. Думаю, што вы і цяпер не верыце ў тое, што камуністычнае грамадства можна пабудаваць, аднак жа вам не хапае смеласці публічна, прынародна прызнаць, што вы поўныя банкруты, што вы прайгралі раз і назаўсёды, і таму яшчэ раз хочаце паўтарыць усё спачатку. Як правіла, другога разу гісторыя не дае.

А ваш «магутны» довад, што пры Брэжневе была каўбаса і гарэлка, а пры Гарбачове — адна толькі свабода,— гэта марная спроба адвярнуць простага чалавека ад таго прагрэсіўнага працэсу, які пайшоў і ідзе па ўсім былым СССР: усе народы хочуць жыць самастойна, хочуць быць гаспадарамі на сваёй зямлі і ў сябе дома.

І адразу дасягнуць поспехаў, як бы нам ні хацелася, немагчыма, на гэта патрэбны час, бо, акрамя таго, што мы яшчэ не ўмеем думаць і рабіць па-новаму, нам яшчэ і ставяць палкі ў колы ўсё тыя ж прыхільнікі старой імперскай палітыкі.

Сёння наш урад узнімае цэны на ўсе прадукты і тавары, спасылаючыся на тое, што Расія ўзнімае цэны на энерганосьбіты, нібы высокія цэны — гэта адзіны паратунак, каб выйсці з крызісу. Можа, пашукаць што-небудзь больш вартае? Бо пакуль мы будзем залежаць ад усходняга суседа, мы ніколі не застрахуемся ад сюрпрызаў, будзем, як на павадку, паўтараць усе тыя зігзагі, якія робіць наш сусед.

Дык чаму ж наш урад і Вярхоўны Савет не шукаюць нейкага іншага выйсця, няўжо няма ніякай іншай дарогі з гэтага тупіка? Камуністычная большасць даводзіць нам, што няма, дарога толькі на Усход. І калі, прабачце, паміраць з голаду, дык разам з Расіяй. Во якія верныя прыхільнікі! Да скону!

Але трэба меркаваць, што Расіі не да нас, у яе самой шмат клопатаў. А калі яна захоча мець з намі адносіны на роўных — тады іншая рэч. Толькі без дыктату!

А мы пра сябе павінны думаць самі — перш за ўсё. Жыццё не бывае роўнаю адкрытаю дарогай. Жыццё — хутчэй дарога, якую трэба пракладаць сваімі ўласнымі рукамі. І ад таго, колькі працы мы ўкладзём у яе, колькі розуму і спрыту, будзе залежаць, якая гэтая дарога — роўная, прамая, як струна, ці пакручастая, з выбоінамі і калдобінамі.

Сёння, мне так здаецца, шмат залежыць ад нашага кіраўніцтва — ці зможа яно па-сапраўднаму ўзначаліць народ, ці зможа павесці за сабою. Нават так: ці паверыць яму народ, ці пойдзе за ім, ці стане старанна будаваць той гмах незалежнае Беларусі, які вымалёўваецца сёння ў нашым ўяўленні, у ідэале. Галоўнае, каб не было вялікай разбежкі ў тым, што хоча рабіць урад, кіраўніцтва, з тым, што хоча бачыць сам народ. Трэба ўмець знайсці якраз гэтую залатую сярэдзіну і да яе імкнуцца. Перамога сама не прыйдзе. На яе трэба шмат працаваць — нам усім, хто сёння насяляе нашу рэспублку.

І давайце адвыкаць на ўсё глядзець збоку: хай яны там нешта сабе робяць, а я пагляджу, што выйдзе... Не, трэба рабіць усім, тады нешта зробім. Як добра — парадуемся разам, як кепска — будзем перарабляць, але з адзіным жаданнем: каб выйшла як найлепш, каб некалі нашы нашчадкі сказалі пра нас: «Яны зрабілі ўсё, каб сёння мы жылі шчасліва і заможна, каб наша Рэспубліка Беларусь стала роўнаю сярод роўных суседзяў, каб яе паважалі і шанавалі ва ўсім свеце».

І ўжо сёння мы павінны будаваць сабе новы будынак, па сваім уласным праекце, для сябе, з вокнамі не толькі на Усход, але і на Захад, на Поўнач і Поўдзень.

Каб бачыць і разумець увесь свет.

Для гэтага найперш трэба зрабіць тры рэчы:

скараціць чыноўны апарат не менш як напалову, адхіліць ад кіраўнічай работы былую партнаменклатуру і паступова, але няўхільна разгружаць гарады ад лішняй рабочай сілы, павярнуцца тварам да вёскі, якая вымірае.

## СІМВАЛЫ СУВЕРЭННАЙ БЕЛАРУСІ БЫЛІ ЗРЫНУТЫ

**25 чэрвеня, у дзень святкавання 50-годдзя вызвалення Віцебска ад гітлераўскіх акупантаў, у цэнтры горада адбылася падзея, якую мясцовыя прыхільнікі дэмакратычных рэформаў расцэньваюць як «ганебны трыумф палітычных стараавераў».**

**З агульнай святочнай калоны, якая рухалася ад плошчы Свабоды па вуліцы Леніна, была выцеснена група асоб, якія неслі Герб і Сцяг Рэспублікі Беларусь. Герб быў тут жа зрынуты на зямлю, прычым дрэўка яго зламалася.** Сцягу суверэннай Беларусі таксама не знайшлося месца ля манумента вызваліцелям на плошчы Перамогі. Так што ўсе прамовы кіраўнікоў мясцовай улады і ветэранаў вайны прагучалі пад старым сцягам БССР.

За ўсім тым, што адбывалася, з неўразуменнем назіралі члены дэлегацый грамадскасці з нямецкага горада Нінбурга і ветэранскіх арганізацый Расіі і Украіны.

*"ЗВЯЗДА"*

**Іван ВАЛІН,**
**БелаПАН.**

## МАНЧЭСТЭР ПРЫМЕ БЕЛАРУСКІХ ЭКОЛАГАЎ

Упершыню беларусы прымуць удзел у сусветным Глабальным экалагічным форуме, які праходзіць сёлета ў Манчэстэры. У Англію адпраўяцца вучні экалагічнага гуртка лінгвістычнага каледжа № 24 горада Мінска і прадстаўнікі маладзёжнага экалагічнага руху «Белая Русь».

Форум, вядомы ва ўсім свеце як рупар экалагічных бед і праблем, збярэ цяпер прадстаўнікоў экалагічных груп, партый, гурткоў і рухаў усіх краін. Беларуская дэлегацыя плануе выступіць з дакладам аб экалогіі рэспублікі пасля Чарнобыля.

**Белінфарм.**



*Малюнак Я. Бусла*

мысловых прадпрыемстваў. І калі сёння гавораць, што парк загублены, то, на мой погляд, гэта гавораць людзі ці наўмысна, ці тыя, каму невядома і незразумела вялікая справа адраджэння нашай спадчыны. Давайце памяркуем, што было б лепей: ці каб наш парк загінуў зусім (а гэта яму пагражала ў самым недалёкім будучым), ці каб ён, няхай з нейкімі невялікімі парушэннямі ў праекце і, можа, з адхіленнямі, у час практычных работ ажыў, атрымаў другое жыццё. Дык што лепей: першае ці другое? Лічу, што дзвюх думак тут быць не можа. Парк нам удалося захаваць, і зараз люба паглядзець на яго. У той жа час не магу сцвярджаць, што там усё зроблена якасна, на вышэйшым узроўні, але ж рабілі мы самі, з-за мяжы не запрашалі. Таму няма на каго скардзіцца. Скардзіцца мы павінны і можам толькі на саміх сябе — да гэтага часу мы так і не навучыліся культуры рэстаўрацыі і будаўніцтва, ды і наогул, як ні горка гэта прызнаць, не ўмеем выхоўваць яе ў нашых жыхароў, асабліва ў моладзі (маю на ўвазе не толькі Нясвіж).

А вось другі аб'ект старажытнасці, помнік архітэктуры сярэднявечча — Дом рамесніка, ці, як інакш яго называюць, Домік на рынку. Да недалёкага мінулага тут знаходзілася гарадская страўня. Потым у горадзе была пабудавана *новая сталоўка* і *помнік застаўся* "без гаспадара". А як вядома, хата, у якой не жывуць, старыцца ў шмат разоў хутчэй. І ўсё ж, нягледзячы ні на што, адразу, у той жа год, райвыканкамам былі знойдзены сродкі, каб зрабіць праект каштарыснай дакументацыі. Неўзабаве тут пачаліся рэстаўрацыйныя работы, якія былі скончаны ў 1992 годзе, і школьнікі горада атрымалі цудоўную дзіцячую бібліятэку.

Калі ўязджаеш у Нясвіж з боку сталіцы, то кідаецца ў вочы прыгожы старажытны будынак з чырвонай цэглы. Доўгі час ён быў абнесены калючым дротам, штодзённа там хадзіў пастаўы — тут знаходзіліся армейскія склады. Але шкада было выкарыстоўваць гэткага "прыгажуна" для такіх мэт. І вось ужо два гады вядуцца рэстаўрацыйныя работы, і, калі ўсё будзе добра — а я на гэта спадзяюся, — у гэтым годзе жыхары і госці горада змогуць убачыць тут часовыя экспазіцыі нашага раённага гісторыка-краязнаўчага музея.

Я пералічыў толькі тое прыкметнае, канкрэтнае і практычнае, да чаго, як кажуць, можна дакрануцца і што можна ўбачыць. Гэта хоць невялікі, але добры пачатак вялікага шляху адраджэння культурнай спадчыны Нясвіжа, бо ўсе мы ведаем добрую старажытную прымаўку: "Не ступіўшы ў раку — не пяройдзеш яе".

Зараз культурнае жыццё Нясвіжа патроху пачало мяняцца ў лепшы бок. Пасля доўгіх намаганняў летась мы атрымалі пастанову ўрада Рэспублікі Беларусь аб стварэнні гісторыка-культурнага запаведніка "Нясвіж". Тут ужо сёння пачынаюць гуртавацца ўсе зацікаўленыя людзі — спецыялісты-гісторыкі, краязнаўцы — для таго, каб паслядоўна і мэтанакіравана адраджаць не толькі матэрыяльную, але і зняважаную за многія стагоддзі нашу духоўную спадчыну.

Мы сталі толькі ў самым пачатку вялікага шляху. Нам шмат яшчэ патрэбна зрабіць.

Па-першае, рэстаўрыраваць і аднавіць будынак гарадской ратушы — адзінага ва ўсёй рэспубліцы грамадзянскага збудавання канца XVI — пачатку XVII ст., якое больш-менш захавалася да нашых дзён. Праца архіцяжкая, і ўсё ж *мы ўжо ў* гэтым годзе *плануем* распачаць тут работы, на якія неабходна на сённяшні дзень не менш як 6 мільярдаў рублёў. Разумеючы важнасць, у гістарычным і маральным плане, гэтай работы, урад рэспублікі выдаткаваў нам на гэты год амаль адзін мільярд рублёў.

Па-другое, тэрміновай рэстаўрацыі патрабуе знакаміты Нясвіжскі фарны касцёл — першы езуіцкі касцёл на тэрыторыі ўсёй Цэнтральнай Еўропы. Тут таксама неабходны вялікія *матэрыяльныя* ўкладанні — з кожным днём пагаршаецца стан сутарэнняў, даху будынка, што пагражае старажытным фрэскам, якія некалі выканаў мясцовы мастак Гескі разам з сынам. Выканкам раённага Савета народных дэпутатаў ужо неаднаразова рабіў пэўныя захады, каб знайсці сродкі. І як бы ні было складана, мы ўжо ў гэтым годзе плануем распачаць тут работы. У гэтым плане хацелася б мець больш паразумення і канкрэтнай дапамогі ад пробашча касцёла Г.Акалатовіча.

Па-трэцяе, пасля перадачы будынкаў вайсковых казармаў Міністэрствам абароны Рэспублікі Беларусь Мінкульту (Нясвіжскаму гісторыка-культурнаму запаведніку) пачынаючы з другога квартала 1994 года тут будуць распачаты работы па аднаўленню нацыянальных рамёстваў, вытворчасці знакамітых слуцкіх паясоў, габеленаў, нацыянальных беларускіх касцюмаў, керамічных вырабаў. Таксама плануецца працягваць работы па аднаўленню паркаў горада і г.д.

Існуе і шмат іншых клопатаў. На ўсё патрэбны пэўныя матэрыяльныя сродкі, і каб "выканкам раённага Савета не змагаўся сам з сабою", як ядавіта пісалі некаторыя рэспубліканскія газеты, патрэбны не тыя самыя ядавітыя ўкусы і крытыканства, а мэтанакіраваная, зладжаная работа ўсіх, каго турбуюць і непакояць праблемы адраджэння беларускай культуры, нашай спадчыны ўвогуле і Нясвіжа ў прыватнасці.

З гэтай мэтай у пачатку бягучага года створаны міжнародны фонд "Нясвіж". Сёння крыўдна чуць, калі кажуць, што ён створаны "для кагосьці" ці "камусьці на руку". Ідэя аб прыцягненні ўвагі суайчыннікаў як у нашай краіне, так і за мяжой да праблем беларускага адраджэння панавала сярод несвіжан даўно, асабліва сярод інтэлігенцыі. І вось яна матэрыялізавалася — міжнародны фонд "Нясвіж" створаны. Канешне, у запаведніка і фонда будзе шмат цяжкасцей, але патрэбна "паважаным прыхільнікам" культуры іх "шкадаваць". "Шкадаваць" не ў тым сэнсе, як некалі гэта рабіла "разумная" Грытэль з французскай народнай казкі, якая, не паспеўшы яшчэ выйсці замуж і нарадзіць дзіця, загадзя аплаквала яго смерць. Не трэба гэтага рабіць, дарагія суайчыннікі. Як бы ні было цяжка, але здужаем мы і эканамічны спад, і культурны заняпад. Упэўнены — не страчана ў беларусаў грамадзянская свядомасць, выберамся мы ў рэшце рэшт з гэтага цяжкага становішча. Нездарма ў народзе кажуць: "Дарогу адолее той, хто ідзе".

# Кліча "зямля запаветная"

З моманту стварэння дзяржавы Ізраіль туды прыбыло амаль 2,4 мільёна рэпатрыянтаў. З пачатку апошняй хвалі вяртання яўрэяў на "зямлю запаветную" ў 1989 годзе і да цяперашняга часу сюды пераехала больш як 570 тысяч чалавек, у тым ліку амаль 491 тысяча з краін СНД. Толькі за мінулы год насельніцтва Ізраіля папоўнілася на 71 тысячу чалавек з ліку рэпатрыянтаў, пераважная большасць якіх з краін СНД.

Напярэдадні нацыянальнага дня незалежнасці канцылярыя кіраўніка ўрада апублікавала даныя аб колькасці насельніцтва ў Ізраілі. Цяпер у краіне 1700 населеных пунктаў, у якіх пражывае 5 мільёнаў 530 тысяч чалавек. За мінулы год насельніцтва павялічылася на 115 тысяч, што склала 2,2 працэнта.

У цэлым у свеце налічваецца каля 12 мільёнаў яўрэяў, з іх 4 мільёны пражываюць у Ізраілі, 5 мільёнаў — у ЗША, каля 1,5 мільёна — у краінах СНД.



**Белінфарм.**

## *Пётр КРАЎЧАНКА:* "ЗВЯЗДА"

## «ЁСЦЬ ЧАЛАВЕК, ПРАВАСЛАЎНЫ СВЯТАР З ГЕРМАНІІ, ЯКІ АСАБІСТА БАЧЫЎ КРЫЖ СВЯТОЙ ЕФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ І ПАКЛЯЎСЯ НА КРЫЖЫ, ШТО ЁН НЕ ЗНІШЧАНЫ».

### *Беларуская гімназія ў Вільні: адраджэнне традыцый*

Сёлета беларусы Віленшчыны ды і ўся беларуская грамадскасць адзначала 75-годдзе стварэння Віленскай беларускай гімназіі. І 50-годдзе з часу яе закрыцця... Тым не менш нават праз паўстагоддзя фізічнага небыцця гімназія існавала --у душах яе настаўнікаў і выпускнікоў, якія здолелі захаваць традыцыі і перадаць іх моладзі, што навучаецца цяпер у беларускіх класах у Вільні.

**Відавочна таму на святкаванні** *21--22 мая большасць прысутных* падзялілася на дзве катэгорыі: ветэраны, выпускнікі беларускай гімназіі 30--40-х гадоў і моладзь, што цяпер вучыцца ў Вільні па-беларуску. Віленская беларуская гімназія дала нашаму народу шмат зорак: Н. Арсенневу, Б.Кіта, У. Таўлая і інш. Але не гэта было вызначальным для яе, а тое, што яна прывіла сваім вучням моцны беларускі дух. «Дух гэты застаўся на ўсё жыццё», -- сцвярджае выпускніца гімназіі Зоя Каўшанка з Вільні.

-- За 200 кіламетраў ад дому, у Вільню, бацька мяне аддаў у бясплатную беларускую гімназію, -- гаворыць яна. -- Большасць навучэнцаў былі прыезджыя з аддаленых ад Вільні месцаў, з бедных сем'яў...

25-гадовая гісторыя беларускай гімназіі была нялёгкай, але цікавай. Польскія ўлады не надта спрыяльна ставіліся да яе, доўга не давалі ёй права выдаваць прызнаваемыя дзяржавай атэстаты, а пазней, пасля рэарганізацыі асветы ў Польшчы, не дазволілі беларусам мець свой ліцэй. Складанае было існаванне гімназіі ў час нямецкай акупацыі. Аднак не столькі пра гэта ўспаміналі на сустрэчы былыя выпускнікі і настаўнікі гімназіі, колькі *пра цікавыя і запамінальныя імпрэзы*, вечарыны, выступленні Забэйды-Суміцкага, хору Шырмы, пра сваіх выкладчыкаў -- братоў Луцкевічаў, М. Гарэцкага, Б. Тарашкевіча, Я. Драздовіча...

Віленскі асяродак беларускай культуры, магчыма, адносіцца да тых нямногіх, дзе культурная традыцыя не парывалася. Цяпер яна працягваецца настаўнікамі і выкладчыкамі беларускіх класаў, якія існуюць на сённяшні дзень пры віленскіх школах № № 13 і 17. Як *паведаміў намеснік дырэктара* Дэпартамента нацыянальнасцей Літвы А. Вайцекус, ужо сёлета беларуская школа будзе існаваць у лепшых умовах. Ёй выдзелена асобнае памяшканне па вуліцы Сеціно, 21 (былы дзіцячы садок), і гарана бярэцца зрабіць прыстасаваць будынак пад школу. 1 верасня 1994 года каля двух дзесяткаў настаўнікаў і паўтары сотні вучняў беларускай школы справяць наваселле.

-- Першы год працы беларускай школы ў Вільні быў складаным, але паспяховым. Першым заўсёды цяжка. Але ж у нас былі такія папярэднікі -- славутая гімназія міжваенных часоў... Добра, што цяпер пра час не забываюцца літоўскія і беларускія ўлады, -- гаворыць дырэктар адчыняемай беларускай школы ў Вільні Лілея Плыгаўка.

Працягвае дзейнасць у Вільні і кафедра беларусістыкі ў Педагагічным універсітэце, цяпер тут вучацца 30 студэнтаў. Праз год з'явяцца першыя выпускнікі.

Падчас святкавання 75-годдзя *беларускай гімназіі міністр* замежных спраў Беларусі П. Краўчанка паведаміў грамадзе ў Вільні сенсацыйную вестку: «Ёсць чалавек, праваслаўны святар з Германіі, які асабіста бачыў крыж святой Ефрасінні Полацкай і пакляўся на крыжы, што ён не знішчаны». Магчыма, у самы бліжэйшы час будуць вядомы і падрабязнасці.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## THE WORLD'S NUCLEAR STOCKPILES

These countries have long-range missles, capable of at least striking regional enemies

| Country | 1980s | 1994 | 2004 |
|---|---|---|---|
| U.S. | 12,650 | 8,380 | 3,500 |
| Russia | 10,800 | 9,663 | 3,500 |
| Ukraine | ? | 1,684 | ? |
| Kazakhstan | ? | 920 | ? |
| France | 359 | 524 | 465 |
| China | 426 | 450 | ? |
| Britain | 325 | 200 | 300 |
| Israel | ? | 50-200* | ? |
| Belarus | ? | 54 | ? |
| India | ? | 20* | ? |
| Pakistan | ? | 10* | ? |
| North Korea | ? | 2 | ? |

*Rough estimates provided by the Arms Control Association

Source: Natural Resource Defense Council, Arms Control Association

NEWHOUSE NEWS SERVICE

## ■ Здарэнне "Мінская Праўда"

# Абдзерлі як ліпку

**Вадзіцель транспартнай фірмы з горада Гдыня, што ў Польшчы, прывёз у сталіцу кантэйнер з запчасткамі да аўтамашын. Пераезд у другую дзяржаву завяршыўся ўдала: яго грузавая машына "Вольва" з кантэйнерам надзейна асталявалася на ахоўваемай стаянцы матэля "Мінскі". Здавалася, можна ўздыхнуць спакойна. З'явіўся і прадстаўнік фірмы, які павінен быў атрымаць гэты груз. Незнаёмец запрасіў паляка ў свае "Жыгулі" белага колеру: маўляў, трэба аформіць дакументы. Наіўны паляк згадзіўся. Па дарозе да іх падсеў яшчэ адзін "камерсант". Далей, як вы здагадваецеся, дзеянне нагадвала кінабаявік: адзін з "бізнесменаў" выхапіў пісталет і наставіў яго на паляка. Патрабаванне — адно: аддаць дакументы на аўтамашыну і груз! Што жыхар Гдыні выканаў без прамаруджвання. Затым паляку завязалі вочы і адвезлі на кватэру. Там ён знаходзіўся каля чатырох дзён. Гэтага часу зладзеям хапіла, каб аўтамашына і груз зніклі бясследна. А даверлівага паляка завезлі ў лес і там адпусцілі. Тады ён і кінуўся ў міліцыю: дапамажыце, абдзерлі як ліпку.**

*(Наш кар.)*

## БЕЛАРУСКАЯ ІДЭЯ СПУСЦІЛАСЯ НА ЗЯМЛЮ. КАСА ПАКУЛЬ «НЕ ПРАЦУЕТ»

"ЗВЯЗДА"

### *ЛЕТАСЬ 80 ПРАЦЭНТАЎ ПЕРШАКЛАСНІКАЎ ПАЙШЛІ Ў БЕЛАРУСКІЯ КЛАСЫ.*

Спецыяльна выдзяляю гэты сказ, ён таго цалкам заслугоўвае. Таму што гэта ўжо не лозунг, гэта факт. Ну, мажліва не 80. Спынімся на 70, нават 65, бо што такое наша статыстыка, хто яе складае і дзеля чаго, - вядома. Але сэнс не ў гэтым. Сэнс у тым, што перад гэтымі дзецьмі ўжо не будзе стаяць дылемы (калі яны вырастуць, ажэняцца і самі народзяць сваіх дзяцей): аддаваць дзіця ў беларускі клас ці рускі.

Прыняцце Закона аб дзяржаўнай мове было, такім чынам, не столькі юрыдычным, колькі палітычным крокам. Закон такая рэч, што яго трэба выконваць. Плаўна ён спускаецца зверху ўніз, ад канцылярыі да канцылярыі, ён трапіў на кантроль, і вялікія клеркі будуць гвалтаваць маленькіх клеркаў: «Які працэнт выканання і ахопу?» Няхай так, няхай выканаўцы не вельмі, гэта мы якнебудзь перажывём, мэта таго вартая. Пагадзіцеся, крыху смешна жыць у краіне, дзе 90 працэнтаў насельніцтва размаўляе не на сваёй мове (і ты сам карыстаешся далёка не беларускай - цяжка пераадолець псіхалагічны бар'ер).

Недзе летась у «Le Figaro» мадам Д'Анкос аспрэчыла наяўнасць у беларускага народа нейкіх там нацыянальных адметнасцей. Гэта, маўляў, проста нешта незразумелае з вялікімі прэтэнзіямі. Памятаю, яе артыкулам у нас абураліся, абвілі скандальным і зневажаючым нацыянальную годнасць беларусаў. Яно так. Сапраўды, абуральна. З другога боку, верагодна, у мадам былі нейкія падставы? Чамусьці яна не напісала так ні пра літоўцаў, ні пра грузін. Пра нас. Так званых беларусаў.

Я разумею, гэта дастаткова крыўдна. Тым не менш, сакрэт асабіста для мяне: і фіны, і грузіны, і літоўцы з палякамі - усе былі ў саставе імперыі. Але мадам напісала толькі пра нас. Увогуле, тут можна шмат пра што паразважаць, але пакінем гэту тэму гісторыкам, філосафам, лінгвістам і інш. Няхай скажуць нам усім, чаму так, а не гэтак.

Але, напрыклад, мяне ні артыкул у «Le Figaro», ні апошнія ўсплёскі на глебе наступлення на «узколобых националистов», ні меры ў адказ апошніх не засмучаюць. Па-свойму маюць рацыю і першыя, і другія. Калі ёсць газеты і яны пішуць аб тых ці іншых праблемах, то заўсёды знойдуцца жадаючыя выказацца і іх апаненты, якія таксама пажадаюць выказацца. Завяжацца палеміка. І вельмі добра. Абы па твары адзін аднаго не білі.

Уласна, усё гэта мае, скажам так, мінімальны ўплыў на аб'ектыўны ход гісторыі. Газеты могуць пераканаць толькі таго, хто гэтага жадае, як кажуць, сам ідзе на «вярбоўку». Астатнія людзі, нармальныя людзі, заняты нармальнымі справамі. Іх, мне здаецца, ідэі беларускага адраджэння таксама цікавяць, аднак не ў той меры, як гэтага камусьці хацелася б. І што, іх за гэта страляць?

Ад сябе міласціва прашу і патрабую: пакіньце іх у спакоі. Дайце ім спакойна хадзіць на сваю работу, есці сваю каўбасу, гадаваць сваіх дзяцей. Яны ўсё роўна гэта будуць рабіць. Так ім наканавана. Таму што яны нармальныя людзі, г. зн. псіхічна і фізічна - норма, адхіленняў няма.

Дарэчы, аб дзецях. Людзі ў нас законапаслухмяныя. (Наогул, іншых нідзе няма і быць не можа - у адваротным выпадку трэба разбірацца з эканомікай, яна яўна знаходзіцца ў заняпадзе.) Дык вось, уявім: іх дзеці пайшлі ў першы клас, а там іх пачалі вучыць выключна на беларускай мове, г. зн. роднай. У школе ставяць адзнакі, і цяжка знайсці бацькоў, якія хацелі б мець дзіця - злоснага «двоечніка». Ніхто не хоча. Калі «двойкі» пайшлі бурным патокам, воленс-ноленс, трэба брацца за рэмень.

Толькі так мы адродзім беларускасць. І прашу не рагатаць - усё вельмі сур'ёзна. Самыя моцныя зрухі ў грамадстве адбываюцца на бытавым узроўні. У сям'і. Гэта калі аднойчы ранкам тата прадзярэ вочы, а родны сын пачне шпарыць па-беларуску, бо «так загадала настаўніца». І што ты тут зробіш? З настаўніцай псаваць адносіны непажадана...

...Нядаўна на адным правінцыяльным вакзальчыку бачыў аб'яву: «Каса не працует». Смешна? Мне таксама. Ужо смешна.

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

# Графа ў пашпарце

*Самыя адсталыя краіны сьвету – маюць свае нацыянальныя пашпарты...*
*А Беларусь надрукаваць іх ня ўмее!.. (Рэд. “Б.Д.”)*

“Свабода”

## Дзякуй партыі ды ўраду

Калі я ўпершыню даведаўся, што ў нашым пашпарце ня будзе графы «нацыянальнасьць», я быў даволі зьбянтэжаны. Вядома, што амаль ва ўсім сьвеце так. Але ж мы ня ўвесь сьвет, мы — своеасаблівыя! Безумоўна, мае хваляваньні мелі збольшага эмацыйны характар, а таму я вырашыў разважаць рацыянальна. Заклікаю да цьвярозасьці ў развагах і ўсіх астатніх.

Сёньня ў сьвеце нацыянальныя меншасьці або аўтаномныя ўтварэньні імкнуцца да незалежнага існаваньня. Гэта, бадай, натуральна. Дзяржава зацікаўлена ў адваротным — у яшчэ большай, мацнейшай згуртаванасьці. У СССР, прыкладам, дзеля яе прыдумалі «новую историческую общность людей» — савецкі народ. Каб чукча, кіргіз, эстонец, беларус пачуваліся аднолькавымі, савецкімі. А ў сьвеце ўсіх нас разам называлі рускімі, паколькі, як вядома, «великая Русь» нас «скрепила навеки». Калі нашае пытаньне разглядаць з гэтага гледзішча, дык пашпартная графа нас ўратавала. Праўда, атрымалася, што колькасьць беларусаў не павялічвалася. Беларусы сотнямі тысячаў перлі на Ўсход, у Азію: на цаліну, Урал ды Сібір, увогуле ў Расею, дзе не жадалі «кичиться» сваёй беларускасьцю, раствараліся ў асяродзьдзі. Але гэта ўжо дэталі. Як там ні было, але графа «нацыянальнасьць» уратавала самы савецкі з усіх савецкіх народаў, найбольш схільны да дэнацыяналізацыі, ад страты свайго імя й зьнікненьня. Карацей кажучы, дзякуй партыі ды ўраду, што памыліліся ў гэтай справе, ня ўсё дадумалі.

## Другі бок мэдаля

Але гэта толькі адзін бок мэдаля. Калі разглядаць праблему з «гарадзенскай званіцы», дык праз гэтыя савецкія пашпарты адная толькі шкода, бо каталікоў машынальна запісвалі ў палякі і цяпер іх аніякай трасцай не прымусіш «беларусамі звацца». Прычым палякі — і нашыя, і з Польшчы — штораз, калі заходзіць мова пра статыстыку, асьцярожна выказваюць няверу да пэўнай лічбы. Я таксама ніколі ня верыў, але не гаварыў пра гэта ўголас. Маўляў, можна пашкодзіць кволай пакуль беларускай справе. Але няма сэнсу хаваць галаву ў пясок. Не дапаможа. Ну сапраўды, ці можна паверыць, што на Беларусі ўсяго 440, здаецца, тысяч палякаў, зь якіх на адной толькі Гарадзеншчыне жыве 330 тысяч? На маю прыватную думку, іхная бальшыня — беларусы каталіцкае веры, некалі вуніяты. Аднак гэта ўжо незваротна, і мая думка ня можа мець аніякага значэньня й вагі. У пашпарце ясна запісана: «паляк», і трэба лічыцца зь ягоным носьбітам і паважаць яго. Бо пра тое ж самае крычаць нам і з Усходу: маўляў, усе мы — рускія.

## Беларускія палякі

Большасьць нашых палякаў, як і астатнія беларусы, моцна ссаветызавалася, бо наш народ, як мы пагадзіліся, аказаўся найбольш прыдатным да асыміляцыі. Выявілася, што не такая ўжо вялікая розьніца, ці ты з каталікоў, ці з праваслаўных. Уплыў сьвятароў на люд быў вельмі абмежаваны, а праваслаўныя ўвогуле заклікалі любіць родную савецкую ўладу. Аднак вернемся да беларускіх палякаў. Найбольш сьведамай, нонканфармісцкай часткі польскасьць давала крыніцу ўласнае годнасьці, нутранога апірышча, раўнавагу (як нешматлікім сьведамым беларусам дапамагала трываць веданьне, што ня ўсё яшчэ страчана, што на эміграцыі існуе беларускі ўрад, беларускае вольнае слова). Польскасьць — як прыкмета шляхотнасьці. Савецкаю нормаю было мець і казыраць простым рабоча-сялянскім паходжаньнем. Але ж плябейшчына ня ўсіх спакушала нават тады.

Адносна нядаўна сам я даведаўся, што меў сярод продкаў нейкага штабс-капітана Лапіцкага, ад чаго адразу пацяплела на душы. Гэтак і з пальшчызнаю. Адчуваць сябе палякам значыла не дарэшты быць звычайным, як усе, савецкім чалавекам. Бо зусім не адно і тое выгадаваць у сабе пагарду да свайго «дзеравенскага акцэнту» і ўсяляк вылузвацца, толькі каб «гаварыць правільна, як усе нармальныя людзі» (бо «нармальных» была цэлая Расея), і быць палякам, значыць належаць да замежнага, несавецкага народу. Розьніца істотная.

У нутраным маўклівым супраціве гвалтоўнай савецкай уніфікацыі беларускага народу больш трывалымі, прычым менавіта беларусамі, асабліва калі параўноўваць з усходнікамі, засталіся якраз нашыя палякі. Апошні перапіс паказаў, што на Гарадзеншчыне немалая частка палякаў (нават параўнальна з пашпартнымі беларусамі) валодае беларускай мовай і карыстаецца ёю. Апытаньне, якое праводзіў абкам напярэдадні прыняцьця Закону аб мовах, таксама засьведчыла, што палякі часта выказваліся за адную дзяржаўную мову — беларускую. Самі ж беларусы, прычым часьцей сярод інтэлігенцыі, нярэдка выяўлялі канфармізм. Такім чынам, нашыя палякі часам больш трывалыя, нутрана перакананыя беларусы, чымся пашпартныя «браткі».

## Дэвальваванае імя

З усяго вынікае, што пры кволасьці беларушчыны запіс у пашпарце не ўратуе, а, наадварот, часткова парушыць статус-кво. Апошнім часам павялічваецца колькасьць заяваў з просьбай перапісацца ў палякі. Ганебна, што на Віленшчыне большасьць падобных «перапісантаў» аказалася беларусамі. Гэтым імем не прывыклі даражыць. Спыніць дэвальвацыю нацыянальнасьці «беларус» можна толькі скасаваўшы адпаведную графу ў новым пашпарце. Бо інакш, будзьце пэўныя, тымі ж палякамі пазапісваецца значна больш люду. Апошнімі гадамі досьвед адсылкі абітурыентаў у Польшчу на вучобу паказаў, што дзеля гэтага бацькі часам вышукваюць у сваіх дзяцей хоць якую восьмую-дзясятую частку польскай крыві.

Быць палякам ганарова. Быць беларусам стане прэстыжна, толькі калі пачне будавацца сапраўдная беларуская дзяржава, якая перадусім паважае сама сябе, без чаго марна чакаць павагі з боку іншых. Тады ўсе мы будзем беларусамі дзяржаўна, і нам ня будзе сорамна прызнацца за мяжой, адкуль і хто мы ёсьць. Вось калі царкоўна-касьцельны падзел і пашпартная графа зусім страцяць якое-кольвечы значэньне. Прыкладам можа служыць тая ж Польшча. Беларусы-каталікі даўно і назаўжды страчаныя для беларушчыны ў Польшчы. Аднак і падзел паводле веравызнаньня (праваслаўны, значыцца — беларус) праз цэнтраімклівыя і па сутнасьці асыміляцыйныя працэсы таксама ня вытрымаў выпрабаваньня гадоў. Паводле польскай статыстыкі, толькі 25, а нават і ўсяго 15% праваслаўных на Беласточчыне залічаюць сябе да беларусаў. Калі ў Менску нарэшце стане ўмацоўвацца менавіта беларуская, як у Варшаве польская, дзяржаўнасьць, дык падобных працэсаў, няхай сабе слабейшых, можна спадзявацца і ў нас. Я перакананы, што гэта магчыма. Пра тое сьведчыць прыклад М.Грыба, які палічыў патрэбным публічна даводзіць, што ён зусім не паляк, а беларус.

## Чарга па грамадзянства

Нацыянальнасьць — рэч нематар'яльная. Грамадзянства — іншая справа, яно функцыянальнае, часам пільна патрэбнае. Выехаць за мяжу, напрыклад, у Польшчу, можа паспрыяць запіс «паляк». Выехаць за мяжу ўвогуле дапаможа толькі штампік пра грамадзянства. Нездарма ж, калі гэтае правіла было ўзаконена, у авірах пачаўся бабілёнскі гармідар, чэргі займалі з ночы. І ўсё дзеля таго, каб атрымаць пазнаку «Грамадзянін Рэспублікі Беларусі».

Скасаваньне графы дапаможа самаму савецкаму народу змагчы ў сабе комплекс «гома саветыкус». Сёньня ж гэтая графа толькі нагадвае нашым людзям, што яны ўжо 70 ці нават болей гадоў савецкія беларусы, якіх савецкая ўлада нарадзіла, узгадавала, вывучыла і дала «пуцёўку ў жыцьцё». Карацей, зьляпіла паводле ўласных патрэбаў. Калі ж у пашпарце будзе пазначацца толькі грамадзянства, беларусы, магчыма, нарэшце адчуюць, што яны жыхары іншай, асобнай дзяржавы. Не СССР і нават не БССР.

Для бальшыні людзей самавызначэньне — справа ў жыцьці зусім не вырашальная, наагул другарадная. Прачнуўся раніцай — і ў прыбіральню, зубы шараваць, сьнедаць, потым на працу. Думкі пра надвор'е, час (ці не спазьнюся?), аўтобус, грошы. І якая розьніца, хто я паводле пашпарту? Назвалі па нараджэньні Пятром або Іванам, запісалі беларусам — і няхай сабе. Дапусьцім, што абвесьцяць цяпер, пры ўваходжаньні ў «кебічаву» зону, што ўсе, прыкладам, тунгусы атрымаюць дадаткова па тысячы, а яшчэ лепш дзесяць тысяч расейскіх рублёў — і палова пабяжыць перапісвацца на тых тунгусаў. Бо такое ўжо было. У 1919-ым, у пэрыяд паміж бальшавіцкай і польскай акупацыямі Горадні, Беларускі нацыянальны камітэт абвясьціў, што прадуктова падтрымае мясцовых беларусаў, і выявілася, што амаль усе гарадзенцы прагнуць быць менавіта беларусамі.

## Несьвядомыя бацькі й працэнты

Мне зразумелая заклапочанасьць патрыётаў скасаваньнем пашпартнае графы. Але я паспрабаваў разважаць, распачынаючы ад адваротнага. На маю думку, захаваньне пашпартнае графы беспэрспэктыўнае. Досыць падзелу па нацыянальнасьцях! Няхай лепш нас усіх гуртуе і ўраўноўвае адзінае беларускае грамадзянства.

Палякі сёньня наракаюць на несьвядомасьць бацькоў, якія ня хочуць аддаваць дзяцей у польскія клясы. Але пачакайце: польскія дзеячы будуць патрабаваць нацыянальнае школы для ўсіх палякаў. Нагадаю, што ў некаторых раёнах Гарадзенскай вобласьці насельніцтва на 85—95% складаюць палякі. Я асабіста ня супраць польскай або якой іншай школы. Я толькі хачу сказаць тым патрыётам, якія бядуюць з-за пашпартнай графы, што яны несьвядома дзейнічаюць супраць сябе і ўласных перакананьняў. Адзнака ў пашпарце пра нацыянальнасьць — анахранізм.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# БЕЛАРУСЬ МОЖА ДАЛУЧЫЦЦА ДА «ПАРТНЁРСТВА...»?

На наступны дзень пасля вяртання са штаб-кватэры НАТО ў Бруселі міністр абароны Беларусі генерал-палкоўнік П. Казлоўскі сустрэўся з журналістамі.

На дзень канферэнцыі, г. зн. 27 красавіка, адзначыў кіраўнік ваеннага ведамства Беларусі, «рамачнае» пагадненне «Партнёрства дзеля міру» падпісалі 18 розных дзяржаў (у тым ліку 8 былых рэспублік СССР). Дзве з пяці зрабіўшых гэта краін СНД — Азербайджан і Грузія — з'яўляюцца ўдзельнікамі Дагавора аб калектыўнай бяспецы Садружнасці. Яшчэ некалькі дзяржаў СНД пакуль не вызначыліся ў гэтым пытанні, але не хаваюць свайго імкнення далучыцца да ініцыятывы, вылучанай на студзеньскай сустрэчы НАТО ў вярхах. 27 красавіка да іх дабавіўся Казахстан, стаўшы 9-м па ліку з былых рэспублік СССР, 6-м з саставу і 3-м з ліку ўдзельнікаў Дагавора аб калектыўнай бяспецы. На думку генерал-палкоўніка П. Казлоўскага, далучэнне Беларусі да «Партнёрства...» не супярэчыць яе Канстытуцыі і не пагражае суверэнітэту краіны. Але зрабіць гэта трэба з улікам фінансавых магчымасцей і пасля абавязковага вызначэння ступені нашага ўдзелу. На першым часе гэта можа выразіцца ў прадстаўніцтве беларускіх афіцэраў у групе каардынатараў дзейнасці «Партнёрства дзеля міру». У далейшым дапушчальны і ўдзел беларускіх войск у сумесных ваенных вучэннях і манеўрах. Дарэчы, правядзенне бліжэйшых запланавана на гэту восень на тэрыторыі Польшчы і Нідэрландаў.

**Якаў ВІКТАРАЎ, РІД.**

“Звязда”

“Народная Газета”

*Беларусь — Польшча*

# Супрацоўніцтва ў сферы кантролю

**19 мая Старшыня Вярхоўнага Савета Мячэслаў Грыб прыняў Старшыню Вышэйшай палаты кантролю Рэспублікі Польшча Леха Качыньскага.**

Мэта візіту - падпісанне Пагаднення аб супрацоўніцтве ў галіне кантрольнай дзейнасці паміж Вышэйшай палатай кантролю Рэспублікі Польшча і Кантрольнай палатай Рэспублікі Беларусь.

У ходзе гутаркі ішла размова аб палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў дзвюх брацкіх дзяржавах. Мячэслаў Грыб падкрэсліў неабходнасць захавання і ў будучым паміж Беларуссю і Польшчай добрасуседскіх адносін. Кіраўнік беларускага парламента расказаў аб ходзе кампаніі па выбарах першага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, заўважыўшы, што польскія палітыкі змогуць прыняць у ёй удзел у якасці замежных назіральнікаў. Мячэслаў Грыб адзначыў, што на чарговай - пятнаццатай сесіі Вярхоўнага Савета беларускі парламент, відаць, разгледзіць законапраект аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета і аб датэрміновым роспуску яго цяперашняга саставу. Выбары новага вышэйшага заканадаўчага органа, на думку Мячэслава Грыба, можна правесці ў снежні. Аднак Мячэслаў Іванавіч не выключыў магчымасць, што Вярхоўны Савет можа не згадзіцца з такой прапановай і прадоўжыць работу да афіцыйнага заканчэння тэрміну сваіх паўнамоцтваў - сакавіка 1995 года.

У ходзе гутаркі былі закрануты пытанні падрыхтоўкі да святкавання 50-годдзя Перамогі над нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

Удзел у гутарцы прынялі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь Эльжбета Смулэк, старшыня Кантрольнай палаты Беларусі Васіль Саковіч.

У той жа дзень адбылося падпісанне Пагаднення аб супрацоўніцтве ў галіне кантрольнай дзейнасці паміж Кантрольнай палатай Рэспублікі Беларусь і Вышэйшай палатай кантролю Рэспублікі Польшча. Подпісы пад дакументам паставілі Васіль Саковіч і Лех Качыньскі.

**Ларыса ЛАЗАР.**

# Голас беларускага замежжа

Галасаваць за Зянона Пазьняка заклікаюць жыхароў Беларусі кіраўнікі таварыстваў беларускай культуры ў замежных краінах, у тым ліку Літве, Латвіі, Эстоніі, Украіне, Расіі і Польшчы, якія прымалі ўдзел у навуковай канферэнцыі "Культура беларускага замежжа". Сярод тых, хто падпісаў зварот да беларускага народа, імёны такіх славутых дзеячаў культуры замежжа, як Вітаўт Кіпень, Сакрат Яновіч, Янка Запруднік, Міраслава Лукша, Васіль Мельяновіч і іншыя.

**Алег ПАЎЛОВІЧ.**

“Народная Газэта”

# Хто распальвае варожасць?

"Народная Газэта"

Многіх палохае не нацыяналізм і яго праяўленні, з гэтым няцяжка змагацца. На Беларусі ніколі не было пагромаў накшталт "бі жыдоў — ратуй Расію". Палохае пэўныя колы рост нацыянальнай свядомасці. Беларус пачынае абуджацца, азірацца і бачыць, хто ж у доме сапраўдны гаспадар, што ён нічым не горшы за паляка, француза, рускага і г.д. Боязь страціць бязмежнае і бескантрольнае панаванне ў тых, у каго ёсць запасная радзіма, якія ў неспрыяльны для іх час хутка знаходзяць там прытулак, агаляючы цэлыя галіны навукі і прамысловасці Беларусі. Таму і ўзнімаецца не беларусамі, а імі хваля так званага нацыяналізму.

Дэпутатаў Вярхоўнага Савета Валянціна Сарокіна і Ігара Някрасава не цікавіць сутнасць паняцця "нацыяналізм". Якая розніца паміж нацыстам і нацыяналістам, расістам, патрыётам і шавіністам, нацыяй і народам? Склалася ўражанне, што яны гэтага не разумеюць.

Наіўна меркаваць, што гістарычныя факты пасеюць варожасць паміж рускімі і беларусамі. Калі мы святкуем перамогу над фашызмам, то гэта не ганьбіць сённяшніх немцаў. Не зневажаюць іх і пастаянныя экскурсіі ў Хатынь. Не зневажае ж татараў святкаванне ўгодкаў Кулікоўскай бітвы, а французаў — Барадзінскай. Біліся не нацыі, а народы. А калі б'юцца народы — гэта называецца вайною, казаў вядомы Казьма Прутков.

Вайна ў мяне ў пячонках ужо, хоць я пасляваенны. З дзяцінства і да гэтага часу — вайна, вайна, вайна. Кіно — пра вайну, гульні — у вайну ("нашых" і "немцаў"), цацкі — танкі, пісталеты, гарматы, шаблі і г.д. Але немец не стаў ворагам. Няўжо паважаны Сарокін лічыць беларусаў такімі дурнямі якія не разумеюць, што рускія ні ў чым не вінаватыя? Вінавата сістэма (не важна якая — царская ці бальшавіцкая), яе праваднікі. Пад выглядам вызвалення, дапамогі фактычна былі створаны ўмовы для ціхай акупацыі. Эканоміка цалкам залежыць ад суседняй дзяржавы, мова амаль што цалкам знішчана — вось далёка не ўсе прыклады яе вынікаў. А па Леніну зусім не так меркавалася. Раю пачытаць Сарокіну і Някрасаву яго творы больш уважліва, каб зразумець сэнс "самавызначэння нацый аж да самага аддзялення", "аб рускай дзяржымордзе", аб тым, каб руская мова не стала пануючай у нацыянальных краінах Саюза. Каб яго ідэі сапраўды здзейсніліся, дык ці была б неабходнасць сёння спрачацца з сарокінымі і някрасавымі нават за само паняцце "адраджэнне".

Пан Сарокін, пэўна, цывілізаваны чалавек. Але ж чаму тон і адносіны да апанента такія варожыя, зняважлівыя? Піша па-руску, а беларускім выразам "спадар" падкрэслівае Гілевіча як нацыяналіста. Таму і я не для зняваґі выкарыстоўваю зварот "гаспадзін", а каб прымусіць задумацца, што з такой формы адносін нічога людскага не атрымаецца. Дык хто ж распальвае варожасць?

Плявок у твар атрымаў не толькі прадстаўнік культуры майго народа, а і я як гаспадар (спадар) свайго лёсу, свайго прозвішча і сваёй адзінай вытворчай уласнасці — мышцаў і думкі. Як казалі калісьці на Русі, "изволили б, сударь, извиниться". Плюеце ж у студню.

"Россия добровольно передала в состав Беларуси значительные территории..." Хлусіце, пан Сарокін! Не перадала, а вярнула: улоўліваеце розніцу?

"Никто, в том числе и я, не выступаем против белорусского языка. Наоборот — поддерживаем...", — піша Сарокін. Божухна, як не сорамна крывадушнічаць?! Раю шаноўнаму дэпутату і яго паплечніку па тэме Някрасаву звярнуцца ў газету "Советская Белоруссия" да таварыша Мастскова, які, як кажуць, сабаку з'еў на падрыхтоўцы матэрыялаў наконт антыдзяржаўнасці беларускай, усялякіх "доказаў" яе нязграбнасці, дыялекта рускай. Амаль тое ж — у "Рэспубліцы", у "Беларускім часе". А чым жа падтрымаў Сарокін мову? Уласным прыкладам? Як не палічыць за знявагу да мовы яго цытату: "Белорусская **мова** может стать непреодолимой преградой..." Заўважаеце? Не язык, а мова.

"Почему не находится места для русского языка, на котором, так уж исторически сложилось, разговаривает большинство населения республики?" Хлусня. Як гэта "исторически сложилось" — мы ведаем. Не "сложилось", пан Сарокін, — гвалтоўна створана. У дзяцінстве ў мяне не запыталі (не гаворачы пра бацькоў), дзе і як я буду працягваць вучобу пасля беларускай школы. О, колькі здзекаў і кпінаў вытрымаў! А калісьці ж было выкладанне ў ВНУ па-беларуску, было беларускамоўнае справаводства.

У чым "не праў" Ніл Гілевіч на думку Сарокіна і чаму "не может молчать" былы партызан Някрасаў, мне зразумела. Хвалюе перасцярога: ці зразумеюць простыя людзі? Не дай Бог, каб зразумелі, як таго хочуць сарокіны і някрасавы: Гілевіч — спадар, значыць, нацыяналіст. Ату яго, ату!..

Не той час, шаноўныя "господа", знойдуцца і заступнікі за свайго народнага паэта, выразніка думак і мар свайго народа.

**Мікола ЛАВІЦКІ,**
**старшыня рэвізійнай камісіі ТБМ імя Ф.Скарыны Рэспублікі Беларусь.**




– Чым скончылася твая сварка з жонкаю?
– Яна прыпаўзла да мяне на каленях...
– І што яна сказала?
– Вылазь з-пад ложка трусьлівы баязьлівец...

## Старшыня Праўлення Нацыянальнага банка Станіслаў БАГДАНКЕВІЧ:

"Звязда"

# «САПРАЎДНАЯ ДРУЖБА ЗАКЛЮЧАЕЦЦА І Ў ТЫМ, КАБ ВЕСЦІ СЯБЕ ГОДНА, ПАДЧАС НАВАТ ЖОРСТКА, АБАРАНЯЮЧЫ СВАЕ ПАЗІЦЫІ. ТАДЫ НАС БУДУЦЬ ПАВАЖАЦЬ.»

**— Станіслаў Антонавіч, першае пытанне, відаць, з разраду асабліва хвалюючых: як на сённяшні дзень практычна ажыццяўляецца дагавор аб аб'яднанні грашовых сістэм Беларусі і Расіі!**

-- Дагавора аб аб'яднанні грашовых сістэм, як такога, няма, і таму што не падпісаны асноўныя палажэнні -- стрыжань гэтага дагавора. Не існуе і міжбанкаўскага пагаднення аб працэдуры аб'яднання, аб функцыянiраванні грашовых сістэм, а таксама міжурадавага пагаднення аб функцыяніраванні бюджэтных сістэм пасля аб'яднання. У дагаворы толькі тэзісна гаворыцца аб тым, што на працягу гэтага года мы выйдзем на адзіную бюджэтную сістэму, але невядома, хто будзе зацвярджаць яе-- Дзярждума ці парламент Беларусі (а можа, хто-небудзь трэці?). Што датычыць грашовай сістэмы, то не вырашана таксама пытанне, ці будзе ліквідаваны Нацыянальны банк, -- мы са свайго боку не далі згоды на перадачу нашых актываў і пасіваў у расійскую ўласнасць (а гэта -- адна з умоў аб'яднання, выпучаемая Расіяй). Мы не далі згоды і на тое, каб усе нашы грашовыя сродкі -- прадпрыемстваў і банкаў-- былі пералічаны па курсу, заснаваным на крос-курсе беларускага рубля да долара і расійскага рубля да долара, гэта абясцэніць нашу грашовую масу, крэдытныя рэсурсы і капіталы нашых банкаў, якія проста не змогуць існаваць на расійскім банкаўскім рынку. Многія пытанні, якія закладзены ў гэты дагавор, мякка кажучы, непадрыхтаваныя, па іх няма ў бакоў нават прынцыповых дамоўленасцей. Я хачу спецыяльна падкрэсліць, што на першапачатковай стадыі вядзення перагавораў у мяне не было рознагалоссяў з урадам. Урад займаў тую ж пазіцыю. Проста ён у імя самога аб'яднання, у імя мэты гатовы ў канчатковым выніку адмовіцца ад палітычных і эканамічных інтарэсаў Беларусі.

**— Наколькі падпісаны дагавор адрозніваецца ад першапачатковых намераў і планаў!**

-- На ўсе 180 працэнтаў. Першапачаткова гэта было пагадненне двюх суверэнных дзяржаў аб тым, каб узгадняць перш за ўсё два параметры эканамічнай палітыкі, два, а не сотні. Першы -- бюджэтны дэфіцыт у працэнтах да нацыянальнага прадукту (мы -- беларускай эканомікі, яны -- Расіі) і другі -- безрэсурсны аб'ём крэдытнай эмісіі. Улічваючы, што мы не можам спыніцца поўнасцю і не выпускаць новай грашовай масы, мы дамаўляліся з Расіяй, што нейкі працэнт расійскіх грошай у адносінах да нацыянальнага прадукту мы выпусцім на тэрыторыі Беларусі, і такі ж працэнт выпусцяць яны. ! паколькі гэты працэнт будзе прывязаны да нацыянальнага прадукту, да таварнай масы, то гэтыя грошы будуць аднолькава забяспечаны таварам. Пагэтаму і цэны будуць прыблізна аднолькавымі. Вось такая была ідэя. Акрамя таго, мы павінны былі добраахвотна ўзгадняць нашу палітыку ў галіне цэнаўтварэння, даходаў... Так, як робіць гэта, напрыклад, Аўстрыя з Германіяй, ці іншыя дзяржавы, якія хочуць прытрымлівацца фіксаванага курса валютнага абмену. Аўстрыя зафіксавала курс сваёй грашовай адзінкі ў адносінах да маркі і сама ўвесь час забяспечвае яго. Што датычыцца нашай сітуацыі, то скажам, зафіксуем мы курс 1:10 -- і неабходна ў далейшым строга прытрымлівацца гэтага. Мы вырашылі ў такім разе 99,9 працэнта пытанняў, звязаных з аб'яднаннем.

Трэба зразумець, што галоўнае тут -- не грошы, галоўнае -- ці ствараем мы ў сябе прадукт, які зможам абмяняць на прадукт Расіі. Памыляецца той, хто спадзяецца, што нам удасца разжыцца за кошт іншага народа. Пагэтаму ўсе словы, што так і сыплюцца аб райскім жыцці пасля аб'яднання, -- проста блеф. Два чалавекі, дзве сям'і, дзве дзяржавы здольны дабіцца нечага ў тым выпадку, калі ім ёсць што спалучыць, калі ў іх ёсць якасны, канкурэнтаздольны, танны прадукт, -- як гэта павінна быць і ў нашым выпадку. Інакш і Беларусь, і Расія атрымаюць ад аб'яднання нуль -- і мы, і яны не выберамся з жабрацкага становішча. Шкада, што многія ў нас не разумеюць усяго гэтага і, напэўна, у многім па віне Багданкевіча.

**— Станіслаў Антонавіч, як усё ж ставіцца да таго, што Расія працягвае браць з нас мытныя падаткі!..**

-- Мы прывыклі жыць у краіне «крывых люстэркаў». У канцы мінулага тыдня я быў у Маскве і ведаю, што і да сённяшняга дня Расія бярэ з нас мытныя падаткі і зборы. Ёсць дамоўленасць з Чарнамырдзіным, што з даты падпісання ён адменіць гэтыя зборы. Але ж дагавор не дзейнічае, ён не падпісаны, падпісаны толькі намеры. Атрымліваецца, што мы з іх нічога не бяром, а самі, як і раней, плацім спраўна. Што рабіць -- такая ў нас палітыка -- гатовы ўсё прадаць, усё аддаць, але не ў імя выгады, на жаль.

У вас можа скласціся ўражанне, што Багданкевіч супраць супрацоўніцтва з Расіяй. Я не вар'ят. Гэта якраз такая сітуацыя, калі табе спачатку аб'яўляюць, што ты -- рыжы, а затым абвінавачваюць у тым, што ты рыжы. Вось і мяне ўжо патрабуюць зняць з пасады, маўляў, кіраўнік Нацбанка супраць інтэграцыі з Расіяй. Я не ўяўляю сабе, як мы можам развіваць сваю прамысловасць, калі страцім такі выгадны рынак збыту, як Расія. Я за тое, каб у нас не было ніякіх мытняў наогул. Але не ў гэтым сутнасць. Зараз многія папулісты крычаць: вось будуць у нас расійскія грошы -- будзе ўсё. Ды нічога не будзе: грошы ж трэба зарабіць.

Праект дагавора сапраўды ўжо гатовы -- аднак, калі ён будзе падпісаны -- на гэтым тыдні, або пасля выбараў, -- я не ведаю. А пакуль жа дзейнічаюць і мытні, і зборы...

Сапраўдная дружба, я лічу, заключаецца і ў тым, каб умець весці сябе годна, падчас нават жорстка, абараняючы свае пазіцыі. Тады нас будуць паважаць, прымаць за сур'ёзных партнёраў. А да чаго прывяла наша ліслівасць -- усе мы адчуваем на ўласнай скуры. З расіянамі заўсёды можна дамовіцца. З узаемнай выгадай. Жыць жа на падачках нельга: наш народ не горшы за іншых, але калі яго кіраўнікі лічаць інакш, то ім лепш вызваліць сваё месца.

**— Для многіх стала нечаканасцю напярэдадні мяркуемага аб'яднання грашовых сістэм наданне разліковаму білету Нацыянальнага банка статуса адзінага плацежнага сродку. Прэзідыум Вярхоўнага Савета, мяркуючы па паведамленнях, запатрабаваў ад вас тлумачэнняў. Чым жа кіравалася праўленне Нацыянальнага банка, ідучы на гэты крок! І яшчэ: ці не пазнавата ён зроблены!**

-- Наконт вашага апошняга пытання я магу сказаць, што мы павінны навучыцца паважаць законы. Я скарыстаў магчымасць, прадастаўленую Нацыянальнаму банку толькі што прынятай Канстытуцыяй, артыкулам 145-м. Так, гэты крок наспеў ужо даўно. Але раней я не мог пераканаць Вярхоўны Савет, цяпер жа ў нашым Асноўным законе воляй таго ж парламента запісана: Нацыянальны банк Беларусі рэгулюе грашовае абарачэнне, устанаўлівае парадак разлікаў. Вось мы і рэгулюем -- усё было абмеркавана на праўленні, мы параіліся і з дэпутатамі, і з членамі ўрада, і з прамыслоўцамі. Мы проста ўзаконілі тое, што дэ-факта існуе даўно. Нічога страшнага не адбылося.

Часам у мяне пытаюць: якая палітычная падаплёка гэтай падзеі? Яна ёсць: можа быць, нашы ўлады, нашы дзелавыя людзі, наша насельніцтва хутчэй усвядомяць неабходнасць умацавання беларускага плацежнага сродку, неабходнасць спынення падзення курса рубля, недапушчэння вялізнай безрэсурснай эмісіі, якая вядзе да інфляцыі, росту цэн. У гэтым і заключаецца палітычны бок -- у неабходнасці ўмацавання пераходнай нацыянальнай валюты. Эканамічны бок звязаны з тым, што асобныя міністэрствы самі сталі ўстанаўліваць абменны курс беларускага рубля да расійскага, не чакаючы ніякіх указанняў зверху. Скажам, гэта зрабілі міністэрствы транспарту, сувязі. Акрамя таго, некаторыя «здольныя» рыначнікі раней вельмі ўдала для сябе ўраўноўвалі расійскія затраты з беларускімі --1:1. Гэта яшчэ паўбяды. А з выручкай што рабілася? Прадалі трактар за мільён расійскіх рублёў і паказваюць затым у дакументах мільён, -- а які гэта мільён -- у расійскіх рублях ці беларускіх? Заніжаўся прыбытак, недаатрымліваў бюджэт. І ў той жа час не парушаўся закон.

Мы чакалі той рэакцыі, якую атрымалі. Сесіі пакуль няма, таму зняць мяне не могуць. Больш таго, я магу сказаць: перакананы, што наш Вярхоўны Савет складаецца з разумных людзей. У іх могуць быць розныя палітычныя погляды, але ж там працуюць гаспадарнікі, спецыялісты. Таму я ўпэўнены, што не адменяць наша рашэнне. Умацоўванне нашай пераходнай валюты палепшыць становішча Беларусі перад магчымым аб'яднаннем зможам абмяняць яе па больш выгаднаму курсу.

**— Мяркуючы па апошніх заявах прэм'ер-міністра, не ўсё добра ў адносінах паміж Нацбанкам і ўрадам. У сувязі з чым, на ваш погляд, у састаў праўлення НБ уключаны два намеснікі Старшыні Савета Міністраў! Ці сапраўды ўсё тут так складана!**

-- Я сказаў бы, што ў нас даўно ёсць рознагалоссі ў вызначэнні шляхоў выхаду з крызісу. Працяглы час мы спрабавалі вырашыць іх, шукаючы кампрамісныя рашэнні. Яны заўсёды знаходзіліся. Галоўнай жа прычынай сённяшняй перапалкі, як я лічу, з'яўляецца тое, што Вячаслаў Францавіч Кебіч проста спрабуе абараніць сябе і свой урад ад грамадскай думкі наконт таго, хто вінаваты, што наша эканоміка знаходзіцца ў такім вось стане. Карацей кажучы, ідзе звычайны пошук «казла адпушчэння».

У чым галоўная праблема? Рознагалоссі -- у рэформе. Прэм'ер нядаўна нават хваліўся і назваў сваёй заслугай тое, што рэформы ў нас да гэтага часу не праводзіліся. Не зроблена ў нас нават самага прымітыўнага, таго, што можа зразумець трэцякласнік, -- цана не адлюстроўвае затраты. Вы ж не прадаяце касцюм за 10 тысяч, купіўшы яго за 100 тысяч? Які кіраўнік калгаса зацікаўлены ў вытворчасці большай колькасці малака, калі ад гэтага ён панясе адны страты? Тое ж самае па мясу, збожжу.

Хіба ж гэта нармальна? Хіба нармальна тое, што мы ва ўрон іншым галінам народнай гаспадаркі 97,2 працэнта ўсіх крэдытных рэсурсаў НБ сёлета аддалі сялу? А Кебіч у Нясвіжы скардзіцца на тое, што Багданкевіч не хоча больш крэдытаваць сельскую гаспадарку. У свой час я паставіў перад намеснікам Старшыні ўрада Аляксандрам Бокачам такую ўмову: нам цяжка выдзяляць гэтыя рэсурсы, але калі вы

**прымеце грунтоўнае, абдуманае рашэнне аб тым, што вы ставіце сельскую гаспадарку на фінансавае самазабеспячэнне праз цану і плюс падтрымку бюджэту, то я буду пераконваць праўленне, што ёсць неабходнасць дапамагчы калгасам. Але ж вы толькі зрабіце крок насустрач.**

А як мы зараз гаспадарнічаем? Выдзелілі трыльён на сяўбу, а ўжо праз два тыдні паступіла прапанова гэты трыльён спісаць на ўнутраны доўг -- ніхто не думае вяртаць яго. Я не магу зразумець і наш дырэктарскі корпус: за кошт яго збяднення кідаюцца такія вялікія грошы выключна на сяло. Ніхто гэтага не бачыць. Вельмі сумна, што мы такія недасведчаныя ў рынычнай эканоміцы. Але хваліцца гэтым...

-- **Станіслаў Антонавіч, пэўныя палітычныя сілы ўскладаюць віну за развал фінансавай сістэмы рэспублікі непасрэдна на вас, патрабуюць вашай адстаўкі, магчыма, супраць вас будуць выкарыстаны і нейкія «чамаданы». Ці не лічыце вы, што рыхтуецца глеба для зняцця з пасады непажаданага кіраўніка Нацыянальнага банка!**

-- Я не думаю, што робіцца нешта такое спецыяльна. Сапраўды, сярод людзей, якія не знаёмы з прынцыпамі функцыяніравання эканомікі ва ўмовах рынку, са спецыфікай рыначных цэн, адмовы ад адміністравання, ёсць неразуменне многіх момантаў. Ім здаецца, што ўсё будзе добра, што ўсё наладзіцца, калі мы вернемся да недалёкага яшчэ мінулага, да старых прынцыпаў. А для гэтага, думаюць яны, дастаткова зняць Багданкевіча, які перашкаджае. Знялі Шушкевіча, але той палітык, там не было асаблівых складанасцей, мяне ж зняць будзе куды больш складана. Часам у мяне ўзнікаюць спрэчкі з дэпутатамі Вярхоўнага Савета, непаразуменні, але гэта толькі спачатку, пасля ж таго, як я прачытаю сваю чарговую «лекцыю» і паспрабую растлумачыць сваю пазіцыю, -- я знаходжу прыхільнікаў. Дзелавыя, сур'ёзныя людзі заўсёды гатовы выслухаць чужую пазіцыю і паспрабаваць, прынамсі, зразумець яе. Так што мяне можна зняць па нейкіх палітычных ці ідэалагічных меркаваннях, але мяне цяжка зняць як прафесіянала.



У чым мяне абвінавачваюць зараз? Галоўнае сцвярджэнне, што Багданкевіч супраць інтэграцыі з Расіяй. Усё. Сваю ж пазіцыю па гэтаму пытанню я ўжо тлумачыў вам вышэй, паўтарацца не буду. Скажу толькі, што маці маіх сыноў-- з Волагды, руская, мае дзеці -- напалову рускія, але ж гэта не азначае, што я не павінен бараніць інтарэсы маёй Беларусі. Я заўсёды гаварыў, што мы павінны дзейнічаць абачліва і ў адносінах з той жа Расіяй -- купляць у яе столькі, колькі зможам ёй прадаць. Я памятаю, як некалькі дзесяцігоддзяў назад узнік канфлікт паміж Францыяй і краінамі арабскага свету, былі перакрыты нафтаправоды, французскі ўрад рашуча ўмяшаўся ў гаспадарчае жыццё краіны, у тым ліку і прыватных фірмаў, з тым каб эканоміць паліва. І яму ўдалося вырашыць гэтую праблему. У нас жа, на жаль, не так. У нас думаюць, што ўсё можна вырашаць па-ранейшаму ўказамі, устанавіць, скажам, абменны курс долара да «зайчыка» 1:5...

Для таго, каб вырашыць нешта сур'ёзнае ў эканоміцы, неабходна мець палітычную волю, а яе якраз і не хапае. Што маем зараз: куплялі ў той жа Расіі энерганосьбіты ў 2,5 раза даражэй, чым прадалі канчатковаму спажыўцу. Як вынік тарыфы сёння неабходна павышаць, як мінімум, у 2,7 раза. Пакуль мы не вяртаем Расіі даўгоў (а за адну толькі энергію яны складаюць 6 трыльёнаў беларускіх рублёў), а сваім спажыўцам прадаём за бесцань. Расплачвацца калісьці ж давядзецца. Трэба думаць, як выжыць у такіх умовах, сітуацыя безвыходная, але пра гэта чамусьці не думаюць, а вядзецца нейкая гульня з пошукам вінаватых. Я ў ёй не ўдзельнічаю.

-- **Вы згадзіліся заняць крэсла прэм'ер-міністра ў выпадку перамогі Станіслава Шушкевіча на прэзідэнцкіх выбарах. Чым вы кіраваліся, даючы сваю згоду!**

-- Была такая папярэдняя размова ў мяне са Станіславам Станіслававічам. У прынцыпе я не адмаўляюся, хоць і разумею, што ў той сітуацыі, якая склалася ў эканоміцы, гэта самазнішчальная пасада. Ведаеце, у мяне ёсць аспірант, ён працуе начальнікам упраўлення аднаго з вядучых банкаў. У яго аклад вышэйшы, чым у старшыні праўлення Нацбанка, і я мог бы атрымліваць у камерцыйнай структуры непараўнальна больш. Але ж я спадзяюся нешта зрабіць тут, мы зрабілі ўжо многае: давялі адпаведнае заканадаўства да еўрапейскіх стандартаў, давед-зены да парадку нарматывы -- карацей кажучы, створана капяіна, па якой можна рухацца далей. Што датычыць мяне, то я і далей гатовы супрацоўнічаць і буду працаваць на любой пасадзе з урадам рэфарматараў, з людзьмі, якія маюць волю і менш за ўсё дбаюць аб папулізме.

-- **Дзякуй, Станіслаў Антонавіч, за гутарку, і -- поспехаў вам!**

**Гутарку вялі Анатоль СЛАНЕЎСКІ, Ігар ШЧУЧЭНКА.**

# *ПАЯДНАЦЦА:*

## ЧАС ВЫМАГАЕ І СПРЫЯЕ

ГУТАРКА СА СТАРШЫНЁЙ АРГКАМІТЭТУ ПА ПРАВЯДЗЕНЬНЮ НАВУКОВАЙ КАНФЭРЭНЦЫІ І ФЭСТЫВАЛЮ "КУЛЬТУРА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА", НАМЕСЬНІКАМ СТАРШЫНІ ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА" Анатолем САБАЛЕЎСКІМ

**11--13 чэрвеня ў Мінску адбудзецца падзея, якая ў многім нагадае леташнюю -- Першы з'езд беларусаў свету. Пройдзе першае пасяджэнне абранай на ім Вялікай рады, на якое запрошаны ўсе яе замежныя сябры. Працягам пасяджэння Рады будзе вялікая навуковая і культурная імпрэза: канферэнцыя і фестываль "Культура беларускага замежжа".**

Згадваючы пра гэта, Анатоль Сабалеўскі сказаў, што яму праблемамі культуры беларускага замежжа даводзіцца займацца ўжо некалькі гадоў, вынікам чаго з'явіўся выхад дзвюх кніг і падрыхтоўка трэцяй. У нас і іншыя працуюць на гэтай дзялянцы, ды, відаць, усю работу трэба канцэнтраваць вакол "Бацькаўшчыны". Дзеля гэтага і праводзіцца навуковая канферэнцыя.

У аргкамітэт па яе правядзенні ўвайшлі вядомыя дзеячы культуры, навукоўцы, людзі творчыя як з нашага боку, так і з-за мяжы, а таксама шэраг афіцыйных арганізацый: міністэрствы культуры і друку, адукацыі, замежных спраў, Скарынаўскі цэнтр, Акадэмія навук Беларусі, Беларускі універсітэт культуры.

-- Каго мы пачуем на канферэнцыі?

-- Без перабольшання, -- лепшых спецыялістаў, навуковыя аўтарытэты як з Беларусі, так і з-за яе межаў. Дастаткова, мяркую, назваць імёны ўдзельнікаў, каб мець права сцвярджаць, што канферэнцыя будзе вельмі прадстаўнічай. З дакладамі і паведамленнямі выступяць Янка Запруднік, Вітаўт і Зора Кіпелі (ЗША), Аляксандр Баршчэўскі, Сакрат Яновіч (Польшча), Аляксей Каўка, Антон Сабалеўскі (Масква), Валянцін Грыцкевіч (Санкт-Пецярбург), Лявон Луцкевіч, Хведар Нюнька (Літва). З нашага боку далі згоду выступіць Віктар Каваленка, Барыс Сачанка, Адам Мальдзіс. А наогул запрошаны да ўдзелу ў канферэнцыі найбольш мабільныя навуковыя сілы з беларускага замежжа ў Вялікабрытаніі, Аўстраліі, Францыі, Бельгіі, Германіі.

З тых заявак, што ўжо дасланы, і з нашых папярэдніх планаў бачыцца тэматычны абсяг. Будуць узняты ці, прынамсі, закрануты праблемы ў сферы матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага замежжа, атрыманы адказы на пытанні, чаму мы яе мала ведаем і чаму так мала і слаба прапагандуецца за мяжой створанае тут, у Беларусі. Спадзяемся, што кожны ўнясе нешта канструктыўнае ў вырашэнне агульнай праблемы.

-- Што хочуць атрымаць ад канферэнцыі яе арганізатары, а прасцей — якую мэту ставяць?

-- Для Беларусі ў савецкі час культуры беларускага замежжа проста не існавала, яна была адрынута і збэшчана камуністычнай ідэалогіяй. Сёння, калі ідзе, хаця і павольна, працэс адраджэння, нам трэба гуртавацца і паядноўваць усе сілы, асабліва творчай інтэлігенцыі, навукоўцаў. Калі нацыя пастаўлена на самавыжыванне і самасцвярджэнне, нам, можа, як ніколі, патрэбна кансалідацыя. Трэба прыспешыць працэс паяднання, для гэтага цяпер самы спрыяльны і ўдзячны час.

У будучыні мне бачыцца, што ўся культура беларускага замежжа будзе вывучана, даследавана і пастаўлена ў агульнанацыянальны кантэкст. Але гэта справа вельмі складаная і, баюся, не такая блізкая. Сёння яшчэ занадта многа белых плям, а таму трэба браць хоць асобныя з'явы, імёны і ўводзіць іх ва ўжытак. Найпершая задача -- накапленне фактаў, ведаў аб культуры беларускага замежжа. Дзякаваць Богу, цяпер мы не прывязаны да ідэалогіі. І для нас няважна, хто па які бок мяжы быў.

-- Але ж яна, ідэалогія, над намі яшчэ доўга будзе вісець, як Дамоклаў меч, перашкаджаючы ў непрадузятым, аб'ектыўным падыходзе да праблем культуры, іх ацэнцы.

-- Скажу так: мы адыходзім ад ідэалогіі, спадзеючыся, што і нашы замежныя суродзічы зробяць тое ж самае. Будзем шчырымі -- ідэалогія была і з гэтага боку, і з таго, і пераважала над ацэнкай эстэтычных, мастацкіх вартасцей. У Беларусі савецкай адмаўлялася як чужая па духу культура беларускай дыяспары. Але ж і там ідэалогія займала часам пануючае месца ў творчасці эмігранцкіх паэтаў, празаікаў, у стаўленні крытыкаў да літаратуры, напісанай у савецкія гады, у яе ацэнцы. У беларускім інтэлектуальным, творчым асяроддзі за мяжой найбольш пісалася пра тых, хто пацярпеў ад сталінскіх рэпрэсій, аналізаваліся творы, якія былі забаронены. А вось пра тых, нават вельмі годных людзей, якія выратаваліся ці пазбеглі ГУЛАГа, якія верна служылі Бацькаўшчыне, амаль што не згадваецца. Яны нібы ў цені і нават ігнаруюцца. Дык ці не час і з таго боку адкінуць ідэалагічныя догмы і прызнаць толькі мастацкія вартасці? Мы павінны ўсё ўспрымаць спакойна. Канешне, трэба аб'ектыўна сказаць, дзе, хто і кім быў, але галоўнае -- што ім створана. Бо створанае -- застаецца. Адна з мэт канферэнцыі -- мы чакаем, што не толькі культура беларускага замежжа будзе разглядацца тут як частка агульнанацыянальнай, але і дзеячы беларускага замежжа будуць шырэй прапагандаваць у сябе нашу айчынную культуру.

Давайце зробім крок насустрач адзін аднаму. Разумею, што працэс яднання, кансалідацыі сёння не такі просты. І найперш, ён складаны ў псіхалагічным плане. Але шлях гэты нам трэба прайсці, пераадолець псіхалагічныя бар'еры. Дзеля адраджэння. Узбагачаючы адзін аднаго, мы станем больш моцныя духам.

* * *

У тыя ж дні ў сталіцы Беларусі пройдзе і фестываль "Культура беларускага замежжа". Відаць, найбольш творчых калектываў і паасобных выканаўцаў прыедзе ад беларусаў Польшчы. Цікавая дэталь: запрошаны на фестываль не толькі тыя, хто за мяжой правёў цэлае жыццё ці нарадзіўся там, але і тыя, хто яшчэ зусім нядаўна хадзіў побач з намі, выступаў на нашых сцэнах. Арганізатары фестывалю хацелі б бачыць на ім і Барткевіча, і Сокалава-Воюша, і Валянціну Пархоменка з Аляксандрам Казаком. А нашы творчыя калектывы, што прымуць удзел у фестывалі, будуць выконваць творы аўтараў беларускага замежжа, і паэтычныя, і музычныя. Прагучаць мелодыі, напісаныя Равенскім і Куліковічам-Шчагловым, вершы Арсеннева і Сяднёва.

Здаецца, гэта першы крок да паяднання.

"Голас Радзімы" **В.КРАСЛАЎСКІ.**

"Навіны АНБ"

# Нарада прэзідэнтаў акадэмій

На пачатку мая ў сталіцы Малдовы — Кішынёве — адбылася нарада прэзідэнтаў Нацыянальнай Акадэміі навук Украіны Б. Я. Патона, Акадэміі навук Беларусі Л. М. Сушчэні і Акадэміі навук Малдовы А. М. Андрыеша. Удзельнікі нарады выказалі сур'ёзную заклапочанасць тым, што ва ўсіх трох краінах не адчуваецца актыўнай падтрымкі ўрадамі навукі — аднаго з галоўных фактараў паспяховага вырашэння жыццёва важных задач любой дзяржавы.

Удзельнікі нарады, згодна з сваім калектыўным рашэннем, накіравалі прыняты на нарадзе Зварот да кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў Украіны, Беларусі і Малдовы.

На нарадзе прэзідэнты нацыянальных акадэмій абмяняліся думкамі пра перспектывы развіцця супрацоўніцтва галоўных навуковых цэнтраў трох краін у сучасных умовах. Прынята рашэнне зацвердзіць новыя прынцыпы такога супрацоўніцтва, ухвалены яго прыярытэтныя накірункі і пералік сумесных мерапрыемстваў.

Прызнана мэтазгоднасць аб'яднання намаганняў у ажыццяўленні навуковых праектаў і іншых мерапрыемстваў, як правіла, на падставе адпаведных дагавораў, пагадненняў і пратаколаў, падпісаных навуковымі ўстановамі і арганізацыямі. Акадэміі навук будуць садзейнічаць выкананню падпарадкаванымі ім структурамі ўзятых абавязацельстваў.

Нарада прыйшла да высновы аб неабходнасці засяродзіць сілы навуказнаўцаў трох нацыянальных акадэмій на правядзенні комплексу работ, накіраваных на даследаванне праблем трансфармацыі акадэмічнай навукі ва ўмовах пераходнага перыяду, на вывучэнне і выкарыстанне на Украіне, у Беларусі і Малдове нетрадыцыйных крыніц фінансавання навуковых праектаў, у прыватнасці, забеспячэння ўстаноў гэтых акадэмій навук інфармацыяй пра дзейнасць міжнародных фондаў і праграм, якія інвестуюць праекты ў галіне навукі.

Навуказнаўчым падраздзяленням акадэмій навук Украіны, Беларусі і Малдовы (каардынатар — Цэнтр даследаванняў навукова-тэхнічнага патэнцыялу і гісторыі навукі імя Г. М. Даброва НАН Украіны) дадзена даручэнне ў месячны тэрмін падрыхтаваць і прадставіць у прэзідыумы супрацоўнічаючых акадэмій узгоднены план правядзення сумесных работ па дадзенай праблеме.

Як прадмет абмеркавання на чарговым пасяджэнні Савета Міжнароднай асацыяцыі акадэмій навук (МААН) прапанавана ўнесці праблемы акадэмічнай навукі ў сітуацыі эканамічнага крызісу і пераходу да рынычных стасункаў.

Нарада выказала просьбу да МААН арганізаваць паміж членамі асацыяцыі рэгулярны абмен інфармацыяй пра міжнародныя канферэнцыі, семінары і іншыя падобныя мерапрыемствы, што плануюцца навуковымі ўстановамі акадэмій-членаў МААН, абмен гадавымі справаздачамі пра дзейнасць акадэмій **і Г. Д.**

НАША ГАЗЭТА ВЫДАЕЦЦА ДЗЯКУЮЧЫ АХВЯРНАСЬЦІ ЧЫТАЧОЎ...

*КАЛІ ЛАСКА,*

*ПАДТРЫМАЙЦЕ НАШУ ГАЗЭТУ!..*

# ТРЭБА ДАПАМАГЧЫ ЗАКОНЧЫЦЬ БЕЛАРУСКІ МУЗЭЙ на БЕЛАСТОЧЧЫНЕ!



Так выглядае будынак Музэю ўжо сёньня.





Самыя актыўныя будаўнікі Музэю, другі зправа сядзіць Сп. Кастусь Майсеня.

## ЯНЫ БУДАВАЛІ БЕЛАРУСКІ МУЗЭЙ У ГАЙНАЎЦЫ

Беларускі музэй у Гайнаўцы быў пабудаваны за кошт дзяржаўных датацыяў, грашовых укладаў ад народных радаў, укладаў дзяржаўных і іншых прадпрыемстваў, узносаў розных грамадзкіх і царкоўных арганізацый, а таксама асабістых укладаў. У канцы 1992 г. дзяржаўныя датацыі складалі 73%, іншыя — 27%, тут-жа асабістых укладаў людзей, асабліва беларусаў.

Трэба адзначыць, што беларусы з усяго сьвету аднесьліся да справы прыхільна і сардэчна. Напрыклад, беларусы з Беларусі, якія самі знаходзіліся ў неверагодна цяжкім эканамічным становішчы, памагалі нам як маглі і чым маглі. Ім лягчэй было дапамагаць матэрыяламі і абсталяваньнем. Яны прыслалі цэмент, граніт, мрамар, электрычныя каблі, радыятары, керамічныя пліткі, санітарныя прылады, абсталяваньне для кіназалы, дубовыя дзьверы, каляровыя тэлевізары, мэблю, мастацкія рэчы, аўтамашыну і многае іншае. І пад канец 1992 г. кошт усіх матэрыялаў з Беларусі складаў ужо палову ўсіх укладаў, акрамя дзяржаўных датацыяў Міністэрства культуры і мастацтва Польшчы. За ўсё гэта мы ім вельмі ўдзячныя.

Вялікі дзякуй і беларусам Польшчы, якія безадказна дапамагалі як грашыма, так і працай. Многія з іх вырашылі добраахвотна рабіць узносы кожны год. Да іх у першую чаргу належаць усе сябры Камітэту пабудовы музэя і прыхільнікі беларускай справы. У канцы 1992 г. іх было 293 асобы. А некаторыя робяць уклады больш як раз у год. Сярод іх трэба назваць Юрку Зюзю з Варшавы. У 1989 г. ён, дарэчы, зрабіў уклады 14 разоў, у наступныя гады — таксама па некалькі разоў.

**Таксама ўдзячныя мы і беларусам з ЗША, Канады, Аўстраліі, якія ахвяравалі значныя сумы даляраў на пабудову музэя.**

Таму і вырашылі мы занесьці імёны ўсіх ахвяравальнікаў у ганаровую хроніку музэю, каб усе, хто будзе наведваць музэй і нашы нашчадкі ведалі, што каменьчык кожнага ахвяравальніка быў умураваны ў будынак Беларускага музэю ў Гайнаўцы, Беласточчына.

Газэта «Ніва» заўсёды друкавала сьпіс ахвяравальнікаў. На жаль, у гэтым сьпісе ня знойдзеш імён і назваў таварыстваў з Беларусі, якія значна нам дапамаглі. Ці яны самі не хацелі, каб іх імёны друкавалі, ці мы забыліся ўнесьці іх у сьпіс?.. Як-бы там ні было, а мы ім вельмі ўдзячныя і павінны іх адзначыць у нашай хроніцы. Гэта: Беларускі фонд культуры, таварыства «Радзіма», згуртаваньне «Бацькаўшчына», некаторыя прадпрыемствы ды шмат інш.

Нарэшце трэба сказаць пра чалавека, адчайнага беларускага актывіста і галоўнага кіраўніка пабудовы музэя — **Кастуся Майсеню.** Не перабольшваючы, трэба сьцьвердзіць, што без ягонае настойлівасьці і бескарысьлівай працы ня было-б Беларускага музэю ў Гайнаўцы. Вось факты, якія гавораць самі за сябе. Ад завадзкога цэха засталося два будынкі. Адзін з іх перадалі пад Беларускі музэй, а другі — пад музэй лясной прамысловасьці.

Будаўніцтва пачалося амаль адначасова, але музэй драўлянай прамысловасьці лепш фінансаваўся, у камітэт па яго пабудове ўвайшлі асобы з вялкім уплывам — амаль ці ня ўся дырэкцыя галоўнага прадпрыемства Гайнаўкі — дрэваапрацовачнай фабрыкі: галоўны дырэктар, яго два намесьнікі і галоўны бугальтар... З такімі сіламі можна было горы варочаць... Але здарылася якраз наадварот. Калі ў пабудове паўсталі перашкоды і цяжкасьці, камітэт развальіўся, будынак-жа за невялікія грошы прадалі — і ў горадзе няма патрэбнага музэю. І ўсё адбылося таму, што ня было ніводнага адданага справе чалавека, які мог-бы ўзначаліць яе. На шчасьце, такога не здарылася з Беларускім Музэем, дзякуючы Кастусю Майсені.

Вельмі шмат у пабудову музэя ўнесьлі дзьве сьціплыя жанчыны, штатныя супрацоўніцы БГКТ — Іяланта Вішнеўская і Галіна Маліш. Акрамя сваіх службовых абавязкаў у БГКТ, яны працавалі ў камітэце пабудовы музэя, а потым сталі работнікамі камітэту пабудовы музэя. Адна з іх была касірам, а другая — кіраўніком складу будаўнічых матэрыялаў. Яны таксама заслугоўваюць словы падзякі за сваю адданую і шчырую працу.

Юльян Казьбярук
Гайнаўка, Беласточчына





*ДАРАГІЯ СУРОДЗІЧЫ!*

*Беларускі Музэй у Гайнаўцы, на Беласточчыне, набліжаецца да заканчэньня... За год ці два музэй будзе канчаткова пабудаваны і закончаны... Але цяпер, як ніколі, патрэбная дапамога Беларускае дыяспары... Няхай кожны з нас ахвяруе пасільную суму ад сябе, зьбярэ ахвяраваньні ад суседзяў, прыяцеляў і знаёмых ды ня толькі ад беларусаў, але ад усіх іншых нашых спагаднікаў...*

***Кожны ахвяраваны долар мае сваю вялікую сілу!***

*Просім усе грамадзкія, палітычныя ды царкоўныя арганізацыі прыкласьціся да гэтае сапраўды патрыятычнае беларускае акцыі...*

***Чэкі просім прысылаць на адрас Рэдакцыі з зацемкаю: на Музэй у Гайнаўцы!*** *Усе ахвяры будуць паквітаваныя ў нашай газэце...*

*КАЛІ ЛАСКА ДАПАМАЖЫЦЕ ДОБРАЙ БЕЛАРУСКАЙ СПРАВЕ!!!*

*Далучыцеся да акцыі самі ды заахвоцьце сваіх блізкіх, суседзяў, прыяцеляў ды знаёмых!*

*Дзякуем за дапамогу!!!*



Выгляд франтовае часткі музэю.

**Калі ласка, ахвяры прысылайце на**

***Наш адрас:***
*Belarusian Digest*
*1086 Forest Hills, SE.*
*Grand Rapids, MI 49546*
*USA.*